PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 52 (2172) Год XLII | Беласток 28 снежня 1997 г. | Цана 1 зл.



*Над ракой Лясной у Белавежскай пушчы.* Фота Сяргея ТАРАСЕВІЧА

# Каляды майго дзяцінства

Юстын Пракаповіч

**Калядкі — добрыя святкі**

Старэйшыя людзі калісьці казалі так: „Калядкі — добрыя святкі. Няма ў полі работы, дык лезь на печ і кладзі ногі на палаткі”. Дзеці з вялікай нецярплівасцю ды хваляваннем чакалі Каляд. Кожнае з іх марыла і гадала, што прынясе пад ёлку святы Мікалай. Аднак не ў кожнай сялянскай сям'і ставілі і ўпрыгожвалі ёлку і не ва ўсіх дамах аднолькава спраўлялі Куццю — вячэру напярэдадні Нараджэння Ісуса Хрыста. Супольнай рысай гэтага вечара была куцця — густа звараная страва з ячменнай крупы. Каб атрымаць адпаведную крупу для куцці, трэба было хатнім спосабам апрацаваць ячменнае зерне ў драўлянай ступе. Гэтая прылада зроблена была ў кавалку тоўстага, высокага на метр ствала граба, дуба, таполі або ліпы. У ствале выдзёўбвалі або выпальвалі конусападобную выемку паўметровай глыбіні, у якую сыпалі высушанае зерне. Таўклі яго адмысловым таўкачом да гэтай пары, пакуль не аддзялілася шалупінне. Гэта была цяжкая работа — таўчы крупы трэба было цэлы дзень, а нават і два.

**Саладуха**

У гэты перадсвяточны вечар абавязваў строгі пост. Зранку ўсе сямейнікі спажывалі ўсё поснае — вараную бульбу ў мундзірах, соль, цыбулю з рапсавым алеем і талерку саладухі. Каб зварыць саладуху, трэба было спярша прарасціць жытняе зерне. Дзеля таго сыпалі ў пасудзіну зерне, злівалі яго вадой і трымалі пад накрыўкай у цёплым месцы. Калі зерне пусціла парасткі, тады сушылі яго ў духоўцы або хлябной печы, а затым малолі ў жорнах. Атрыманую салодкую муку ўсыпвалі ў кіпень і варылі пакуль вадкасць не набярэ колеру хлеба. Пасля гэтую зацірку разлівалі ў гліняныя гладышкі і адстаўлялі на 3-4 дні закісаць. Саладуху елі з бульбай або хлебам. Мужыкі любілі яе піць яшчэ на пахмелле.

**У чаканні вячэры**

У доме маіх бацькоў ёлку ставілі заўсёды на Куццю. На высокім да самай столі дрэўцы вешалі мы з братамі Язэпам і Генадзем шкляныя шарыкі — бомбкі, цукеркі ў каляровай бліскучай абгортцы, пернікі, яблыкі, арэхі ды рознага роду папяровыя цацкі. На самым версе ёлкі красавалася залацістая зорка. На галінках мацаваліся падсвечнікі са свечкамі. Упрыгожванне ёлкі пачыналася недзе каля другой гадзіны пасля абеду і цягнулася да захаду сонца. Дзетвара з вялікай напружанасцю чакала змяркання і першай зоркі. Святочная вячэра пачыналася каля пятай гадзіны вечара і прысутнічалі ў ёй усе члены сям'і. Да вячэры ўсе дакладна мыліся, надзявалі чыстую бялізну, апраналіся ў святочнае адзенне. На ганаровым месцы — покуці — клалі невялічкую вязку (кітку) сена, а на яе ставілі гаршчок з куццёю, якую прыкрывалі двума адмысловымі ручнікамі. На ручнікі ставілі ікону з выявай Хрыстовага Нараджэння. У нашым доме перад іконай клалі яшчэ на талерцы аплатку.

**Адкуль аплатка?**

У маёй роднай вёсцы Кучкуны Стаўбцоўскага раёна, былога Наваградскага ваяводства ў сем'ях Пракаповічаў і Камароў на Куццю заўсёды з'яўлялася аплатка. На жаль, у маладосці не пацікавіўся я чаму ў нашай вёсцы ў некаторых праваслаўных сем'ях ламаліся аплаткай. Цяпер мяркую, што гэты звычай захаваўся яшчэ з XVIII стагоддзя, калі уніяцкія тады сем'і Пракаповічаў і Камароў былі цесна зроднены, а адзін з маіх продкаў пабудаваў у Кучкунах уніяцкую царкву. Мабыць, прысутнасць каталіцкай аплаткі на стале праваслаўных беларусаў была вынікам іхніх сувязей з польскімі ўстановамі і суседзямі ды знаёмымі. Мой бацька дваццаць гадоў служыў лесніком у дзяржаўным лесе, а наш дом часта навед-

[працяг ☞ 3]

# У нумары



*Чытачам „Нівы”, якія святкуюць Каляды па новаму стылю, жадаем прыемнага святочнага адпачынку.*

*Рэдакцыя*

# Мы прачыталі

*Białoruś zapędzono ponownie w zapiecek rosyjski. Działacze białoruscy w Polsce powinni być siłą, która pomaga budować niepodległe państwo białoruskie. W żadnym przypadku nie powinni — jak chcą władze BTSK — pełnić roli pastuszków, którzy pomagają Łukaszence zapędzić bydło białoruskie do zagrody rosyjskiej.*

*Jeżdżenie przez działaczy BTSK na imprezy bałwochwalcze w stosunku do Łukaszenki, branie od niego prezentów i uczestniczenie w organizowanych przez niego poczęstunkach uważam za formę sprzedawania się i zdecydowanie to potępiam. Nie tak dawno przewodniczący Syczewski pojechał na pięciotysięczny spęd, w lipcu brał udział w przyjęciu u Łukaszenki na zjeździe Białorusinów. Przewodniczący Syczewski bierze udział w tych spotkaniach, wysłuchuje wynurzeń Łukaszenki, w których padają pytania po białorusku, a odpowiedzi Łukaszenki po rosyjsku,* — сказаў Аляксандр Баршчэўскі.

*Gazeta w Białymstoku, nr 281*

* * *

*Prezes Syczewski stoi na stanowisku, że bez względu na to jaką jest władza na Białorusi należy z nią współpracować. Nie widzi on nic niewłaściwego w przyjmowaniu prezentów od prezydenta Łukaszenki. Władze Białorusi określa jako źródło duchowe i materialne dla swojej mniejszości, od którego nie można się odcinać.*

*Na XIII Zjeździe Delegatów BTSK pierwszym zastępcą Syczewskiego został młody działacz, Ireneusz Ławreszuk, związany z Cerkwią prawosławną. Obecny na zjeździe ks. Grzegorz Misiejuk nawoływał delegatów do współpracy na rzecz prawosławnej mniejszości białoruskiej. Nie spodziewał się zapewne, że przełom we wzajemnych stosunkach nastąpi tak szybko.*

*Kurier Podlaski, nr 234*

* * *

*Radio Maryja przy pomocy Rodziny Radia Maryja doprowadzi do tego, że Duch Święty otworzy wszystkich na wymiar sakralny. Że katolicy będą katolikami. Radio Maryja pomaga w tym, żeby katolik był katolikiem i słuchał Ducha Świętego. Radio Maryja jest także szansą dla polskich księży, żebyśmy zaczęli słuchać Ducha Świętego i czynić co przystoi katolikom. Bardzo dziękuję Bogu za dar ojca Rydzyka, że jest dyrektorem Radia Maryja. Otwórzmy się na Boga i zawierzmy Duchowi Świętemu,* — сказаў пасол з Беласточчыны Пётр Крутуль.

*Kurier Poranny, nr 282*

Самыя знакамітыя палітыкі з нашага ваяводства былі выбраны падчас апошніх выбараў. Якая глыбіня палітычнай думкі выплывае з выказвання пасла Крутуля. Проста, еўрапеец!

* * *

*Нашае грамадства — постсавецкае. Наш чалавек за часы расейскай і бальшавіцкай акупацыі прывучаны слухаць начальства, а не закон. Бо ён жыў пры азіяцкім рэжыме, дзе галоўным было — улада, а не законы, дзе было так, як начальства скажа. Людзі, выхаваныя ў такіх умовах, чакалі і спадзяваліся на добрага начальніка, а не змагаліся за гарантыі ажыццяўлення права роўнага для ўсіх — начальнікаў і неначальнікаў. Гэткія грамадскія акалічнасці якраз спрыяюць дыктатуры,* — піша Зянон Пазняк.

*Свабода, н-р 129*

* * *

*З усіх ганенняў, якія выпалі на долю царквы ў гады савецкай улады, самымі бязлітаснымі і жорсткімі былі тэрор і масавыя рэпрэсіі супраць духавенства і вернікаў. Ужо ў пачатку 1922 года ў краіне ў адпаведнасці з судовым прыгаворам былі расстраляны 1 691 свяшчэннік, 1 962 манахі, 3 447 манахінь і паслушніц, а без суда — каля 15 тысяч служыцеляў культу — святароў і манахаў. Тых, каго не расстралялі, чакалі канцлагеры.*

*Голас Радзімы, н-р 48*

* * *

*Каб стаць чытачом хоць якога з беларускіх выданняў, спачатку трэба зрабіцца беларусам. А каб зрабіць з шэраговага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь — беларуса, патрабуецца шмат часу і столькі ж высілкаў. Тым болей, што дзяржава Беларусь у „вытворчасці беларусаў” амаль не ўдзельнічае. Кожны свядомы беларус — гэта штучны выбар, здзейснены на ладзе Беларускага Тэксту самаахвярнымі намаганнямі прыватных асоб.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 47*

* * *

*У 1994 годзе адбылося „Пакліканне Хама”. Лукашэнка прыйшоў да ўлады як стаўленнік Масы, люмпенізаванага за гады рэформаў савецкага плебсу. Шэры натоўп, пазбаўлены нейкай выразнай культуры, выказаў волю да ўлады, абраўшы падобнага да сябе праставатага „чэснага” калгаснага мужыка. У дзяржаве запанаваў масавы чалавек, створаны ў выніку калектывізацыі, якая моцна разбурыла вясковую традыцыю, і ўрбанізацыі, якая рэзка маргіналізавала места. Улада, якую маса падае свайму лідэру, нагэтулькі вялікая, што не цэрпіць ніякіх праяваў апазіцыйнасці.*

*Фрагмэнты, н-р 3—4*

# З мінулага тыдня

**Літоўскія парламентарыі** запрапанавалі расейскім дэпутатам стварыць трохбаковы польска-расейска-літоўскі форум для абмеркавання сітуацыі Калінінградскай вобласці РФ і вырашэння яе будучыні. Ад самага пачатку аднаўлення незалежнасці Літвы будучыня Калінінградскай вобласці выклікае там вялікія страсці. Некаторыя літоўскія палітыкі лічаць, што частка вобласці, г.зв. Малая Літва павінна быць вернута літоўцам. Расейскі бок востра адрэагаваў на прапанову і заявіў, што не жадае, каб чужыя ўмешваліся ва ўнутраныя справы Расеі.

**Сеймавая Камісія нацыянальных і этнічных меншасцей** запрапанавала камісіям культуры і адукацыі выдзяліць 1 млн. зл. на дзейнасць беларускай меншасці, а таксама 2,5 млн. зл. на завяршэнне пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і штаты для гэтай установы.

**Хартыя '97** — беларускі апазіцыйны рух, які на працягу месяца сабраў подпісы 40 тысяч чалавек гатовых дзейнічаць супраць „нішчэння падставовых правоў чалавека” — сарганізаваў 10 снежня г.г. ў Варшаве канферэнцыю, на якой дзеячы „Хартыі” папярэдзілі, што Беларусі пагражае ўвядзенне ваеннага становішча і заклікалі палякаў аказаць салідарнасць. У гэты ж дзень, які ва ўсім дэмакратычным свеце адзначаецца як Міжнародны дзень правоў чалавека, падобныя канферэнцыі адбыліся ў Маскве, Вільні і Кіеве.

**Ля беларускага пасольства ў Варшаве** 14 снежня г.г. адбыўся пікет у абарону газеты „Свабода”. Пад два дзесяткі чалавек, якія сабраліся пад пасольствам па ініцыятыве Беларускага народнага фронту і Беларускай асацыяцыі журналістаў, скандавалі лозунгі „Жыве Беларусь!” і „Свабода «Свабодзе»!” Паводле **Яна Чурыловіча** з БНФ, менскія ўлады намерваюцца закрыць чарговыя апазіцыйныя газеты, між іншым штотыднёвік „Імя”, які атрымаў ужо два папярэджанні. Падчас пікету, які праходзіў пад бел-чырвона-белымі сцягамі, дэманстранты збіралі подпісы пад петыцыяй з патрабаваннем вызваліць з турмы вязняў сумлення.

**Управа горада Беластока** прыняла рашэнне аб перадачы рымска-каталіцкаму прыходу св.св. Сымона і Алены ў Менску бібліятэкі Прадпрыемства па абслугоўванні гарадскога транспарту, якая дасталася яму ў спадчыну ад зліквідаванага Прадпрыемства гарадскога транспарту.

**У Кузніцы-Беластоцкай** шафёры аўтафураў гадзіну часу блакіравалі даезд да кантрольна-прапускнога пункта на польска-беларускай мяжы ў знак пратэсту супраць замаруджванню мытнага кантролю і нерасчышчаных дарог. У выніку стварылася чарга аўтамабіляў з Кузніцы ў Саколку (18 кіламетраў). Пасля перамоў з пагранічнікамі, мытнікамі і гміннымі ўладамі шафёры спынілі пратэст. КПП у Кузніцы прыстасаванае прапускаць 200 аўтамабіляў у суткі, аднак цяпер даводзіцца адпраўляць нават да 400 машын.

**У Чаромсе** пагранічнікі выявілі больш за 50 спробаў увезці з Беларусі сушаныя грыбы, якія аказаліся забруджанымі ў выніку радыяцыі. Праўдападобна гэтыя грыбы паходзілі з зоны пацярпелай ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**Чацвёра грамадзян Рэспублікі Беларусь**: жанчына і трое мужчын ва ўзросце 26-36 гадоў загінулі ў выніку дарожнай аварыі на шашы № 18 Варшава—Беласток каля вёскі Касакі-Баровыя Ломжынскага ваяводства. Іхняя машына „Фольксваген” сутыкнулася з аўтафурай, якая ехала з Чэхіі ў Расею. Паліцыя мяркуе, што шафёр легкавіка заснуў за рулём.

# Весткі з Беларусі

**Пратэст у сталіцы**

У 49 гадавіну ўхвалення Генеральнай асамблеяй ААН Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека 10 снежня ў Менску адбылася антыпрэзідэнцкая маніфестацыя. Звыш тысячы жыхароў сталіцы пратэставалі пад транспарантам з надпісам „Далоў дыктатуру!” Сярод бел-чырвона-белых сцягоў можна было ўгледзець партрэт наймаладзейшага палітычнага зняволенага — 16-гадовага Вадзіма Лабковіча. У абарону вязняў сумлення маладыя дзеячы БНФ правялі „эстафету свабоды” з Жодзіна (у тамашнім сіза сядзіць В. Лабковіч) цераз Менск у Стоўбцы (дзе быццам бы маляваў ён антыпрэзідэнцкія лозунгі).

**Вяртанне Краўчанкі**

Тыднёвік „Беларуская газета” паведаміў, што пaслом у Японію накіроўваецца былы міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. Яшчэ нядаўна быў ён сярод тых дэпутатаў, якія не прызнаюць легітымнасць Нацыянальнага Сходу, актыўна адстойваў у Савеце Еўропы і іншых еўрапейскіх структурах справы беларускага парламента і канстытуцыю 1994 года, даволі рэзка крытыкаваў дзеянні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Аднак апошнім часам Краўчанка быццам бы знік з публічнай палітыкі і перастаў з'яўляцца на апазіцыйных форумах, вельмі рэдка і неахвотна даваў інтэрв'ю, не крытыкаваў Расеі і яе кіраўнікоў. Не выключана, што вяртанне Краўчанкі ў афіцыйную міжнародную палітыку адбылося пры садзеянні расейскага МЗС.

**Бядотнае становішча**

Трывожная фінансавая сітуацыя, якая складваецца ў вёсцы, стала галоўнай прычынай для прынняцця звароту Прэзідыума Брэсцкага абласнога савета калгасаў да старшынь абедзвюх палат Нацыянальнага Сходу. Па стане на 1 кастрычніка крэдыторская запазычанасць сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Брэстчыны складае звыш двух трыльёнаў рублёў. Асноўная прычына такога бядотнага становішча сельскай гаспадаркі тоіцца ў дыспарытэце цэн на сельгаспрадукцыю і матэрыяльныя рэсурсы. Таму неабходна перагледзець цэны і наблізіць іх да ўзроўню цэн у Расейскай Федэрацыі. Акрамя таго для нармальнага развіцця аграпрамысловага комплексу неабходна ўстанавіць аб'ём бюджэтнага фінансавання вёскі ў памеры 20% ад даходнай часткі дзяржаўнага бюджэту.

**Музычная перамога**

Бліскучую перамогу на міжнародным конкурсе піяністаў у Японіі атрымаў малады беларускі піяніст Сяргей Смірноў. Абсалютнае лідэрства сямнаццацігадовага мянчаніна аўтарытэтнае журы адзначыла прысуджэннем вышэйшых узнагарод — Гран пры конкурсу і першай прэміі. Сяргей Смірноў — навучэнец рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі ў класе педдацэнта Уладзіміра Няхаенкі. І сёлета ён ужо другі раз становіцца пераможцам фартэпіяннага конкурсу. У чэрвені Сяргей быў удастоены першай прэміі на міжнародным конкурсе піяністаў у Кішынёве.

**Лясны дар**

Незвычайны падарунак Беларусі вырашылі зрабіць прадпрымальнікі з Еўропы. У наступным годзе на іх сродкі на тэрыторыі рэспублікі прадугледжваецца высадзіць 3 тысячы гектараў лесу. Пра гэта паведаміў спікер Праўлення Еўрапейскай канфедэрацыі асацыяцыі малых і сярэдніх прадпрыемстваў Манфрэд Форэр. Папярэднія перагаворы па гэтым інвестыцыйным праекце праведзены ўжо ў Міністэрстве лясной гаспадаркі. Ажыццяўленне гэтай добрай ініцыятывы не толькі палепшыць стан навакольнага асяроддзя, але і створыць новыя рабочыя месцы.

**Свечачны экспарт**

У Грузію да навагодніх святаў Кіраўскі дрэваапрацоўчы камбінат адправіў цэлы вагон парафінавых свечак — 50 тон. На студзень гэта краіна заказала яшчэ столькі ж. Перадвавагодні заказ на кіраўскія свечкі паступіў таксама з Масквы, Варонежскай і Цвярской абласцей ды іншых рэгіёнаў Расеі. У суседнюю рэспубліку экспартуюцца 50% гэтай прадукцыі. Кіраўскі камбінат — адзінае ў Беларусі дзяржаўнае прадпрыемства, якое спецыялізуецца ў вытворчасці свечак. У год іх тут выпрацоўваюць каля 300 тон.

# Каляды майго дзяцінства

[1 ☞ працяг]
валі лясныя начальнікі, паляўнічыя, вайскоўцы і чыноўнікі старасства. Паляўнічым быў таксама арганіст стаўбцоўскага касцёла і ён нам, дзецям, раздаваў аплаткі. Іншыя таксама працавалі на чыгунцы, у тартаку, у гміннай адміністрацыі і розных польскіх установах.

**За святочным сталом**

Калі на небе паказвалася першая зорка, маці пачынала рыхтаваць святочны стол. Пад прыгожа вышываны абрус клала яна сена. Супольная вячэра пачыналася малітвай. Гаварыў яе бацька, а астатнія паўтаралі за ім словы. Мама ў тым часе ламала аплатку і клала яе на талерку, якую ставіла пасярэдзіне стала. Пасля малітвы бацька блаславіў сям'ю, жадаў усім здароўя і шчасліва дачакаць чарговых Каляд. Усе пяць сыноў падыходзілі да бацькі, дзякавалі за пажаданні, цалуючы бацьку і маці ў руку, бралі па кавалку аплаткі і сядалі за стол. А на ім стаялі выключна посныя стравы: селядцы ў алеі, селядцы смажаныя ў цесце, рыба (шчупак або лінь) печаная і ў студзіне, капуста з грыбамі, аладкі з пшанічнай або ячменнай мукі, блінчыкі ў макавай падсыце, канаплянка з грыбамі і селядцамі, кампот з сушаных груш і яблык, журавінавы і аўсяны кісель, падсыта з маку і мёду ды самая галоўная страва — куцця. Абавязкова трэба было спрабаваць кожную страву, а на канец закусіць усё гэта куццёю. Гарэлкі і віна падчас святочнай вячэры не пілі. Алкагольныя напіткі спажывалі на другі і наступныя дні. Маці пільнавала, каб на стале было дванаццаць страў і адна свабодная талерка для неспадзяванага госця.

**Маўчанне авечак і кароў**

Пасля святочнай вячэры стала не прыбіралі. Пакідалі яго з думкай пра памерлых продкаў, дзядоў, якіх душы павінны былі прыйсці ноччу павячэраць. Сена з-пад куцці бацька заносіў у хлеў, а мы беглі за ім, каб паразмаўляць з авечкамі, каровамі і коньмі. Але ніводная з жывёл не хацела да нас адазвацца і нам па гэтай прычыне было вельмі прыкра. Тады бацька тлумачыў нам, што жывёла размаўляе толькі з тымі дзяцьмі, якія не саграшылі перад Богам і раіў нам быць паслухмянымі, шанаваць бацькоў, суседзяў і сяброў, а тады праз год жывёла напэўна адазвецца да нас па-людску. Падбадзёраныя бацькавымі настаўленнямі прысяглі мы весці сябе ў будучым карэктна і бязгрэшна.

**Жабрак у гасцях**

Калі здарылася, што ў другой палове дня на Куццю ў дом зайшоў жабрак або вандровец, тады не адпускалі яго з хаты, запрашалі застацца на святочную вячэру і давалі яму начлег. Такога госця адпускалі толькі на першы дзень Каляд пасля снедання. У даваенны час у вёсках было многа беднякоў і жабракоў. Нешчаслівыя бралі ўсё, што давалі ім заможнейшыя сяляне: кавалак хлеба, місачку мукі, кусочак мяса, дробныя грошы. Такім людзям цяжка было падрыхтаваць Куццю, не было ім за што нават купіць селядцоў ці іншай рыбы. У бедных сем'ях святочная вячэра мала рознілася ад будзённай і складалася з трох-чатырох страў з абавязковай куццёй і кампотам з сушаных яблык і груш, часта несаладжаным.

**Калядоўшчыкі**

У першы дзень Каляд прыходзіла да мяне шмат сяброў — школьных калег і сваякоў-аднагодкаў. Уваходзячы ў хату віншавалі яны са святам бацькоў, а маці саджала іх за стол ды частавала пірагамі і цукеркамі. Пасля ўсе захапляліся ёлкай і спявалі калядкі, між іншым, „Во Віфлееме" і польскую „Всьруд ноцнэй цішы". Беларускіх калядак мы не ведалі. На ўроках закону Божага вучылі нас на царкоўнаславянскай і расейскай мовах, а астатнія прадметы ў школе выкладаліся па-польску. Старэйшая моладзь у гэты дзень хадзіла па вёсцы са звяздою і спявала беларускія калядкі, якіх навучылі іх уніяцкі святар са Стоўбцаў. Багаслужбы і ўвесь літургічны абрад спраўляў ён ва уніякай капліцы на ваенных могілках у Стоўбцах выключна на беларускай мове. Уніята вельмі не любілі праваслаўныя святары са Стоўбцаў.

**Прыход Дзеда Мароза**

Міналі гады, а людзі да Каляд рыхтаваліся старым, нязменным парадкам. Разбурэнне традыцыі пачалося ў нас з прыходам Чырвонай Арміі ў 1939 годзе. Каляды гэтага часу ахутаны былі нейкай жалобнай атмасферай. Улады афіцыйна ліквідавалі царкоўныя святы, а нават штотыднёвую нядзелю, уводзячы свабодны ад працы дзень кожны шосты дзень (так было да 1 мая 1940 года). Забаронена было калядоўшчыкам хадзіць са звяздою. У Каляды трэба было ісці ў школу і на работу, а замест святога Мікалая з'явіўся Дзед Мароз, які прыносіў дзецям ласункі ад „вялікага прыяцеля дзяцей усяго свету, бацюшкі Сталіна". Настаўнікі пры ёлцы паўтаралі дзецям: „Скажите, сколько раз вы получили конфетку от Бога? Конечно, никогда. А вот видите, товарищ Сталин прислал вам, юным ученикам, множество конфеток".

**Засталіся толькі ўспаміны**

Сёння мне, 70-гадоваму чалавеку, мінулае здаецца нейкай цудоўнай казкай. Ад колішніх багатых абрадаў засталіся толькі іх асноўныя элементы. Змяніўся сам абрад і падрыхтоўка да святочнай вячэры. Асабліва гэта відаць у гарадскіх умовах. Ніхто ўжо не таўчэ круп у ступе, не рыхтуе саладухі, а куццю ўжо паўсюдна вараць з рысу. Мая жонка стараецца яшчэ каб на стале было 12 розных страў, а ў іх ліку селядцы, рыба і іншая посная ежа. Прыехаўшы на Беласточчыну сустрэліся мы тут з просфарай, якая напамінае нам каталіцкую аплатку. Не змянілася толькі абыякавае стаўленне духавенства і вернікаў да беларускай мовы, а ў цэрквах надалей гучыць расейшчына і штораз часцей польская мова.

**Юстын Пракаповіч**

# Школа псаломшчыкаў

— Думаем, што нашы выпускнікі стануць дырыжорамі і настаўнікамі музыкі, — кажа дырэктар школы і настаяцель прыхода айцец Міхаіл Негярэвіч. — Будуць мець магчымасць інтэграваць нашу моладзь.

У верасні 1996 года ў парафіяльным доме пры саборы Святой Тройцы ў Гайнаўцы пачаліся заняткі ў новаадкрытай Праваслаўнай школе псаломшчыкаў. Прадбачваўся набор абітурыентаў сярэдніх школ на двухгадовую вучобу.

Зараз два курсы. На першым — 8 асоб, а на другім — 12. Айцец Негярэвіч вядзе заняткі па галасавым спяванні. Анна Сідарук, абітурыентка Пецярбургскай кансерваторыі, па інтанацыі, слыху і дырыжыраванні, Ірэна Лукашук — па тэорыі музыкі, а тэалагічныя прадметы вядуць праваслаўныя дэканы Мікалай Келбашэўскі і Юрый Такарэўскі. Раіса Бурыла займаецца педагагічнымі прадметамі. Заняткі па музыцы вядуцца ў саборы, што дае добрыя акустычныя рэзультаты. Няма падтрымкі ні з боку Міністэрства адукацыі, ні з боку Міністэрства культуры і мастацтва. Школа існуе дзякуючы ўзносам студэнтаў і фінансавай дапамозе парафіі Святой Тройцы. Хор псаломшчыкаў заняў I месца на Гайнаўскім фестывалі царкоўнай музыкі ў 1997 годзе, у катэгорыі „іншых хораў". Паспяхова выступіў таксама на экуменічным канцэрце ў Радаме.

Жадайма выпускнікам плённай працы з моладдзю.

**Аляксей Мароз**

# Аб'ява

Рэдакцыя „Нівы" аб'яўляе конкурс на пасаду журналіста нашага штотыднёвіка. Ад кандыдатаў патрабуецца:

— вышэйшая адукацыя,

— добрае веданне беларускай літаратурнай мовы,

— узрост да 35 гадоў,

— гатоўнасць да працы на тэрыторыі ўсяго Беластоцкага ваяводства.

Зацікаўленых журналісцкай працай просім даслаць на адрас рэдакцыі, апрача ўласнай біяграфіі, кароткі рэпартаж, фельетон на выбраную сабой тэму і інфармацыю пра нейкую актуальную падзею ў беларускім асяроддзі.

Заявы прымаюцца да 15 студзеня 1998 года.

**Рэдакцыя**

# Нашы мястэчкі і вёскі

**Мора** — адна з большых вёсак Чыжоўскай гміны; мяжуе з Крывятычамі. Была яна заснавана Астапам Малецкім перад 1570 годам.

На мясцовым могільніку знаходзіцца капліца св. Тэклі. Пад канец XIX стагоддзя ў вёсцы існавала царкоўная школа граматы. Паміж Морам і Крывятычамі стаіць мураваны будынак колішняй падставовай школы-„тысячагодкі", у якой ужо два гады арганізуюць дыскатэкі для моладзі з удзелам калектываў disco polo. А яшчэ не так даўно вучылася ў гэтым будынку моладзь, якая славілася спартыўнымі дасягненнямі, і працаваў кіраўніком Васіль Ляшчынскі, цяперашні дырэктар бельскай „тройкі".

Жыхары Мора моцна любяць сваю зямлю. У 1915 годзе не падаліся яны ў бежанства, а сёння больш у Моры маладых земляробаў чым у навакольных вёсках. Да 1994 года можна было сюды даехаць на чыгунцы. Цяпер жыхарам прыходзіцца карыстацца аўтобусным транспартам.

Ураджэнцам Мора з'яўляецца вядомы паэт-„белавежац" Віктар Швед. Тут нарадзілася таксама Ірэна Баравік, якая піша вершы на беларускай і польскай мовах ды на падляшскім дыялекце.

Вёска Мора налічвае зараз 249 жыхароў.

**Збуч** — вёска ў 2 км на поўнач ад Мора, ля шашы Бельск-Падляшскі—Гайнаўка. Упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца яна пад 1540 годам. Побач вёскі знаходзіцца сярэдневяковыя стаянкі XI-XIII стагоддзяў. Сляды ад абарончага гарадзішча цягнуцца з заходняга боку вёскі. А на поўнач ад Збуча знаходзяцца сярэдневяковыя магілы ў каменных абкладах. Археолагі знайшлі пры шкілетах шкляныя і бронзавыя ўпрыгожанні і нож. Шкада, што незабяспечаныя агароджай археалагічныя помнікі разбураюцца ў выніку сельскагаспадарчых работ. Абодва аб'екты — гарадзішча і могілкі ў Грабняку — занесены ў рэестр помнікаў і павінны ахоўвацца законам.

Цяпер у Збучы пражывае 220 чалавек.

**Гукавічы** — распаложаны ў 2 км на паўночны-захад ад Кленік. Пад канец XIX стагоддзя працавала тут царкоўная школа гараматы. У 1891 годзе ў вёсцы было 30 дамоў і 280 жыхароў, у 1936 — адпаведна: 24 і 125, а ў 1959 — 26 і 125. З паўднёва-ўсходняга боку Гукавіч мяжуе невялікая вёсачка **Ляшчыны**. Абедзве яны налічваюць 117 жыхароў. Першая пісьмовая згадка пра Ляшчыны паходзіць ад 1576 г. і значыліся яны як паселенне млынара. У 1891 г. было тут 7 дамоў і 60 жыхароў, а ў 1936 — адпаведна: 12 і 58, а ў 1959 — 14 і 63.

**Кленікі** — самая вялікая вёска ў Чыжоўскай гміне распаложаная ў палове дарогі між Бельскам-Падляшскім і Нарвай. Упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца яна ў саракавых гадах XVI стагоддзя. У 1576 годзе тут існавала ўжо царква. Цяпер у састаў Узнясенскага прыхода апрача саміх Кленікаў уваходзяць Сапава, Лушчы, Гукавічы, Гародчына, Кожына, Ступнікі, Козлікі, Іванава, Градочна, Ляхі, Янава, Малыя Тыневічы,Істок, Радзькі. У міжваенны перыяд Кленікі атрымалі статус штатнага прыхода з далучэннем часткі вёсак Пасынкаўскай парафіі. У 1959 годзе прыход налічваў 3 160 прыхаджан. У 1973 годзе драўляная царква згарэла (узведзена яна была ў 1880-х гадах). На яе месцы прахаджане пабудавалі новы мураваны храм, які высвяцілі ў 1988 годзе. У вёсцы знаходзяцца яшчэ мураваныя капліцы св. Мікалая і могільнікавая — Праабражэння Гасподняга.

У 1790 годзе Кленікі налічвалі 56 дамоў, у 1891 годзе — 103 дамы і 825 жыхароў, у 1936 — адпаведна: 178 і 1 064, у 1956 — 222 і 1 113, а ў 1995 — 240 і 1 000.

У вёсцы пачалі будаваць новую вясковую амбулаторыю. У мясцовай школе (якой будынак узведзены быў у 1960-х гадах) вучыцца 121 дзіця. Дзве трациіны ад агульнага ліку навучэнцаў давозяць з Сапава, калёніі Слівава, Гукавіч і васьмі вёсак Нарваўскай гміны. У школе дзеці вывучаюць беларускую мову. У будынку пажарнага дэпо размясцілася бібліятэка з 8 912 кнігамі. Яшчэ нядаўна працаваў тут фальклорны калектыў „Вясёлкі". Адміністрацыйна вёска падзелена на дзве часткі: Кленікі-1 і Кленікі-2. Пражываюць тут прыкладныя земляробы, з ліку якіх вылучаюцца Пётр Фірсюк і Мікалай Кобац. Цяпер у Кленіках пражывае 641 жыхар.

Побач Кленік узвышаецца самае высокае месца ў гміне — 171 м над узроўнем мора. На поўнач ад вёскі знаходзіцца кар'ер, у якім сяляне капаюць жвір.

**Сапава** — адна з найбольш раскінутых вёсак у гміне, распаложана па поўдзень ад Кленік. Доўгая яна на 2 км і жыве ў ёй усяго 51 жыхар.

**Міхал Мінцэвіч**

# Рада выращыла

З'езд прадстаўнікоў Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва" адбыўся ў памяшканні газеты ў нядзелю 14 снежня 1997 года.

Сябры Рады заслухалі справаздачы старшыні Валянціна Сельвесюка і галоўнага рэдактара „Нівы" Яўгена Мірановіча. Я. Міранковіч паведаміў, што апрача выдавання „Нівы" выдадзены былі дзве кніжкі: „Дзённікі" Сакрата Яновіча і „Гісторыя Беларусі" Віктара Ярмалковіча. Праводзіліся таксама Сустрэчы „Зоркі". „Ніва" цяпер не мае ніякай задоўжанасці.

Апрача фінансавага стану „Нівы", Рада дыскутавала праблему адлюстравання газетай важных грамадскіх падзей, такіх як сёлетнія выбары. Большасць тых, хто ўзяў голас, выказаліся за самастойнасць рэдакцыйнага калектыву ў прэзентацыі грамадскіх спраў. Рада рэкамендавала таксама правесці конкурс дзеля падбору новых журналістаў.

У другой частцы нарадаў разглядаліся персанальныя справы. У адстаўку падаліся старшыня Рады В. Сельвясюк (па службовых прычынах — пераязджае ў Парыж) і галоўны рэдактар Я. Мірановіч.

Рада выбрала новае праўленне ў складзе: Яўген Вапа (Беларускі саюз), Пятро Юшчук (БДА), Юрка Шульскі (БАС), Яўген Мірановіч (Беларускае гістарычнае таварыства), Галена Глагоўская (БКТ „Хатка" ў Гданьску), Юрка Калiна (Асацыяцыя беларускіх журналістаў) і Міраслава Лукша (Літаб'яднанне „Белавежа"). У Рэвізійную камісію выбраны былі: Алег Латышонак, Юрка Хмялеўскі, Пятро Крук, Славамір Іванюк і Марко Заброцкі.

Праўленне Праграмнай рады на асобным пасяджэнні сваім старшынёй выбрала Я. Мірановіча, намеснікам старшыні — Я. Вапу і скарбнікам — М. Лукшу.

Па рэкамендацыі праграмнай калектыву, падтрыманай Радай, галоўным рэдактарам „Нівы" Праўленне назначыла Віталя Лубу.

Алег Латышонак

# Не развітваюся

Гэту публікацыю пішу як апошнюю на пасадзе галоўнага рэдактара „Нівы". Не развітваюся аднак ні з рэдакцыяй, ні з чытачамі. На ніўскіх тэкстах я вучыўся роднай літаратурнай мове, у „Ніву" упершыню стаў пісаць па-беларуску. Пяць гадоў таму сябры рэдакцыі і Праграмнай рады даверылі мне кіраўніцтва рэдакцыйным калектывам тыднёвіка. У сапраўднасці кіраваць тут і не надта было трэба. Кожны з супрацоўнікаў рэдакцыі ведаў, што яму трэба рабіць, кожны знаў сваё месца. Сам не ведаю як удалося перапатрываць нашаму калектыву 1992-1994 гады, калі сярэдняя заработная плата журналістаў і рэдакцыйных супрацоўнікаў не перавышала г.зв. сацыяльнага мінімуму. Але перш за ўсё неабходным было тады пагасіць кашмарную задоўжанасць і купіць хаця б найтаннейшую камп'ютэрную тэхніку, без якой немагчыма выпускаць газету. Адзін пазычаны камп'ютэр, які быў у рэдакцыі, чамусьці безупынна псаваўся. Каб паспець дагаліць патрачаны час, трэба было нават працаваць кругласутачна. Без ахвярнасці маіх калег рэгулярны выпуск тыднёвіка быў бы зусім немагчымы.

Цяжка таксама ўявіць працу нашай рэдакцыі без падтрымкі сяброў Праграмнай рады, якія некалькі разоў у год, падчас доўгіх нарадаў, ацэньвалі вынікі нашай творчасці, паказвалі памылкі і падказвалі, што трэба зрабіць, каб „Ніва" была больш успрымальнай для чытачоў. Апошні старшыня Рады — Валянцін Сельвясюк — вымушаны быў часам пакідаць свае абавязкі ў Варшаве ці Парыжы, дзе праце, каб сустрэцца з калегамі і вырашыць некаторыя выдавецкія праблемы.

Ведаю, што ў апошніх гадах „Ніва" па-рознаму ацэньвалася чытачамі. Адны гавораць, што надта адарваная яна ад жыцця вёскі, нейкая элітарная, інтэлігенцкая, перапоўненая матэрыяламі не для ўсіх зразумелымі; другія, наадварот — што плебейская, народная яна. Для адных замала было вестак з гмінаў, іншым — палітыкі, яшчэ іншым — вершаў, гумару ці каляровых здымкаў. Некаторым чытачам не падабалася наша ацэнка палітыкі Лукашэнкі ці бачанне рэдакцыяй навейшай гісторыі беларусаў. Лічу гэта праявай нармальнасці нашага грамадства. Горш было б, каб усе думалі аднолькава.

„Ніва" перш за ўсё адрасуецца аматарам беларускага слова. На польскай мове можам сёння прачытаць усё і пра нашае асяроддзе, атрымаць нават парады што рабіць, каб стаць беларусам. „Ніва", безумоўна, з'яўляецца элітарным часопісам, таму што даходзіць яна да тае невялікай часткі нашага народа, якая яшчэ ўмее і хоча чытаць на роднай мове. Напэўна ніякі змест нашага тыднёвіка не пераменіць палякаў праваслаўнага паходжання ў беларусаў. Але тым, якія адчуваюць сваю прыналежнасць да беларускай супольнасці, якія не пайшлі з натоўпам, таксама патрэбны часопіс. Таму, пакуль будуць беларусы на Беласточчыне, „Ніва" павінна надалей адлюстроўваць усе іх праблемы. Новаму галоўнаму рэдактару Віталю Лубу жадаю поспехаў у пошуках кампрамісаў для вырашэння шматлікіх супярэчных інтарэсаў усялякіх груп нашага грамадства, якія пастаянна перакрыжоўваюцца ў „Ніве".

Яўген Мірановіч

# Яшчэ адзін тэлеканал для Галівуда

У сераду 10 снежня праграмны дырэктар Беластоцкага тэлецэнтра Вайцех Варацінскі склікаў прэс-канферэнцыю прысвечаную пераходу таго ж тэлецэнтра на шматгадзіннае вяшчанне. Будзе яно адбывацца на 35-м тэлеканале ад 8-й да 23-й гадзіны і складацца з уласных перадач і рэтрансляцыі канала „Polonia", так як і ў другіх рэгіянальных тэлестанцыях. У будзённыя дні прадбачваецца рэтрансляцыя „Polonii" ад 8.30 да 15.00. Пачатак уласных перадач — а 8-й, затым уласныя перадачы пойдуць ад 15-й да 23-й гадзіны. Будзе там паўтары гадзіны дзіцяча-маладзёжных праграмаў, гадзіна для дарослых, паўгадзіны рэгіянальнай публіцыстыкі, пяцьдзесят хвілін многасерыйных фільмаў, дзесяць хвілін парадаў, звыш дзвюх гадзін дакументальных і мастацкіх фільмаў і ўрэшце яшчэ паўгадзіны тэматычнай публіцыстыкі; прыгнятальная большасць тых фільмаў — „made in Hollywood". Па суботах і нядзелях „Polonii" будзе менш; свае праграмы дырэктар Варацінскі хоча паказваць да 10-й ды ад 13.30 па суботах і ад 14-й па нядзелях. У гэты пасляабедні час па суботах маюць паказвацца польскія фільмы, а па нядзелях у 14.00—14.30 мае быць каталіцкі магазін і недзе пасля 16-й праваслаўны; калі дакладна — дырэктару на дзесяць дзён перад яго першым выпускам яшчэ не было вядома.

Я спадзяваўся, што ў пабольшаным часе на свае беластоцкія перадачы знойдзецца час на павелічэнне і аб'ёму перадач на жывой яшчэ ў нас беларускай мове, бо ж беластоцкі тэлецэнтр меў быць візітнай картачкай увагі Польшчы для спраў яе нацыянальных меншасцей. Паколькі дырэктар Варацінскі не заікнуўся пра гэта, тады я яго спытаў. Пачуў я ў адказ, што новых пастаянных беларускіх перадач не прадбачваецца, толькі недзе час ад часу ў рамках публіцыстыкі. Бо з беларускімі перадачамі дырэктару вялікі клопат: напрыклад, як перакласці на польскую мову (!) спевы падчас Бардаўскай восені. Як ухіл у бок беларусаў дырэктар Варацінскі хоча раз у месяц паказваць працу гродзенскага і віленскага тэлецэнтраў.

* * *

У сённяшнюю эпоху, калі назіраецца паўсюдны пракатны наступ галівудскіх баевікоў і каўдравікоў, у цывілізаванай Еўропе расце супраціўленне гэтаму знішчажаючаму патопу, якое праяўляецца між іншым і зацікаўленнем тымі ўсімі каштоўнасцямі, якія выспелі на роднай зямлі. Перасталі там саромецца і нацыянальнымі меншасцямі, знаходзячы ў іх намнога больш каштоўнасцей, чым у адурманьваючай прадукцыі Галівуда. Варацілы беластоцкага тэлебачання хочуць, відаць, унесці ў Еўропу і свае этычныя вартасці, паводле якіх — так гэта мне бачыцца — культура меншасцей найбольш каштоўная тады, калі яе няма, а калі яшчэ жыве — толькі клопат. Бо ж намнога лягчэй заплаціць нашым абанементам за галівудскае страляннне і качанне — гэтага ж не трэба перакладаць нават беластоцкім дырэктарам. А на працы гродзенскага лукабачання могуць яны яшчэ больш дасканаліць сваю.

* * *

Дырэтар Варацінскі прасіў давесці да ведама магчымых гледачоў, як прымаць перадачы беластоцкага тэлецэнтра; спаўняю ягоную просьбу. Хто мае калектыўную антэну — за таго паклапоцяцца адказны за яе апаратар. Уласнікі ж індывідуальных антэнаў, якія пражываюць не больш чым 10 кіламетраў ад перадатчыка ў Крыніцах, павінны дакупіць звычайную антэну для 35-га тэлеканала. Тыя, што пражываюць ад 10-ці да 60-ці кіламетраў ад перадатчыка, павінны дакупіць многаэлементную антэну (antena wieloelementowa) на 35-ты тэлеканал. Хто жыве яшчэ далей, павінен да апошняй антэны дакупіць яшчэ і „przedwzmacniacz antenowy" — што гэта такое, нават сам дырэктар не ведаў! Абсяг крыніцкага перадатчыка — 100 кіламетраў. А я хачу яшчэ ад сябе дадаць, што трэба мець і тэлевізар, які той 35-ты канал прыме; старыя тэлепрыёмнікі з пераключальнікам на дванаццаць пазіцый непрыгодныя для прыёму беластоцкага тэлевяшчання. І калі які ўласнік старога тэлевізара хоча больш нагля-дзецца на Памэлу Андэрсан ці Сільвестра Сталоўна, хай хапае пенсію ды ашчаднасці і подбегам імкне ў бліжэйшую краму з электронікай.

Аляксандр Вярбіцкі

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 6**

У чацвёртым нумары „Нашай нівы" за 1907 год у рубрыцы „Выбары" былі змешчаны інфармацыі з Нарвы, у якой на з'ездзе „дробных землеўладальнікаў" выбралі на павятовы з'езд двух сялян і двух духоўных. З гэтай жа публікацыі даведваемся, што ў Орлі і Пасынках сяляне выбралі „упаўнаважаных бойкіх і шчырых людзей: аднаго мужыка і так аднаго чалавека, што сам выйшаў з народу і будзе цягнуць за мужыкоў". З гэтай жа рубрыкі даведваемся, што ў Беластоцкім павеце ад валасцей было выбраных „восем мужыкоў сацыялістаў".

„Наша ніва" за 1907 год у сёмым нумары змясціла ў рубрыцы „З Беларусі і Літвы" інфармацыю падпісаную М. Паўлюком. Аўтар досыць падрабязна апісаў выбары ў Красным Стоку Сакольскага павету. З артыкула даведваемся, што ў гэтай мясцовасці жывуць каталікі і праваслаўныя. Аднак каталікоў болей там, чым праваслаўных. На валасным сходзе людзі падзяліліся паводле рэлігійнага прынцыпу. Ад праваслаўных кандыдаваў член чарнасоценнага саюза. Выбары аднак прайгралі і сабраная грамада выбрала двух каталікаў. Уз'яраны член чарнасоценнага саюза пры дапамозе земскага начальніка давёў да паўторных выбараў, у рэзультаце якіх чарнасоценец ізноў разам з іншым праваслаўным кандыдатам выбары прайграў. Земскі начальнік парушаючы права паслаў на павятовы з'езд усіх чатырох кандыдатаў, двух каталікаў і двух праваслаўных. Павятовыя ўлады аднак паведамілі, што дэлегатаў павінна быць толькі двух, а не чатырох.

Аўтар артыкула канстатуе: „Паднялася тутака цэлая завіруха: разаслалі на валасці пачтароў і ўсіх парочных клікаць сход. Сабраўся сход трэці раз. Падняўся крык, шум, гоман, сваркі, але ж ізноў выбралі тых самых людзей, што і першы раз.

Вось якая ў нас „свабода" выбараў! Дай Бог больш такіх не бачыць!" — канчае М. Паўлюк.

Вельмі каларытны артыкул паявіўся ў рубрыцы „З Беларусі і Літвы" ў восьмым нумары „Н. н." за 1907 год. Ананімны аўтар у публікацыі „Аб выбарах у Гродне" ахарактарызаваў губернскі выбарчы з'езд, у якім прымалі ўдзел і прадстаўнікі ўсходняй Беласточчыны. „Перад выбарамі, — піша публіцыст, — архірэй пайшоў да мужыцкіх выбаршчыкаў і настаўляў іх, што згода з гарадскімі жыдоўскімі выбаршчыкамі, усяроўна, што здрада святога крыжа, роднага краю і праваслаўнай веры".

Потым, упаўшы на зямлю, палохаў мужыцкіх дэлегатаў пякельнымі карамі, калі яны асмеляцца галасаваць разам з жыдамі. Даведаўшыся аб тым, што сяляне ўжо паабяцалі жыдам галасаваць разам з імі, сказаў, што такое слова можна зламаць і не баяцца грэху.

# „Навучыўся радавацца чужой радасці..."

## *Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*

***(працяг; пачатак у 46 н-ры)***

Прага, 25.11.1965.

Дарагі Максіме!

Дзякуй за вестку аб сабе. І я шкадую, што мы размінуліся. Трывожыць мяне, што і Ты мусіш палыкаць пілюлькі. Я без іх не абыходжуся ніколі, але ты ж маладзейшы. Спадзяюся, што ўжо выздаравееш і жадных пілюлек не патрабуеш.

Прыемна чытаць Тваю ацэнку маёй працы на Беласточчыне. Нялёгка мне там было. З-за холаду ледзь-ледзь вытрымаў. Памагалі сардэчнасць арганізатараў і слухачоў. Радавала і тое, што там, дзе перад вайной нашы песні забараняліся, там мне за іх дзякавалі нават ад ураду.

Ад урадоўца чуў і такія словы: „Трэба арганізаваць курсы літаратурнай беларускай мовы"... Аб маіх выступленнях гаварылася, што гэта толькі пачатак тае працы, якую трэба весці далей... (Але гэта я чуў і ў Мінску!)

Шкада, што чалавек не можа жыць столькі, колькі патрабуе... Наспяваў у Варшаве 11 беларускіх народных песень на доўгаграючую плітку. Што гэта была за праца, браток! Аркестр быў зусім не прыгатаваны, і я кожную песню з-за аркестра мусіў 5, 7 і нават 10 разоў паўтараць. Да таго, яшчэ быў прастуджаны. Дык урэшце на хустачцы, у якую кашляў, убачыў кроў. Калі б гэта не былі нашы песні, ніколі б не згадзіўся на такую працу.

Дзякую за „Полымя" № 10 з Тваімі вершамі і за зборнік „Мой хлеб насушчны". Пераклады мне падабаюцца. Радуе і тое, што і тыраж расце. Хацелася б, каб ён рос яшчэ больш.

Пакуль што бывай здароў, дарагі Максіме!

Прывітанне сям'і і сябрам.

Твой Міхась Забэйда.

* * *

Прага, 8.8.1966.

Дарагі Максіме!

Вельмі парадавала мяне вестка аб палепшанні Твайго здароўя. Шкада толькі, што зноў навалілася на Цябе працы больш, як трэба. І ўсё ж, дарагі дружа, мусіш памятаць, што без здароўя і праца не пойдзе.

Я ўсё яшчэ трымаюся і нават, кажуць, добра спяваю, калі даюць мажлівасць. На жаль, гэтых мажлівасцей, чым далей, тым менш.

У Вільнюсе клопаты аб маіх выступленнях кончыліся так, як і паўторнае падарожжа на Радзіму. Пішуць, што памог Мінск.

Канчаю пісаць, каб не забіраць Твайго часу, бо яго і так у Цябе не хапае. Дбай, дарагі Максіме, аб сваім здароўі і жыві доўга, бо Ты патрэбны Радзіме. Мой шлях, на жаль, набліжаецца да канца.

Моцна цябе абдымаю і шлю сардэчныя прывітанні Табе з сям'ёй і супольным знаёмым.

Твой М. Забэйда.

PS. Дзякуй за 6 і 7 № „Полымя", якое добра свеціць і грэе. Калі што патрабуеш з Прагі, напішы — прышлю з радасцю.

* * *

Прага, 29.12.1966.

„Зваліўся б камень з плеч,
Каб знаў, што можаш
Прыйсці ты ў дом
Не толькі ў дзень пагожы"...

Дарагі Максіме!

Так хацеў бы і так трэба было б з Табой пагаварыць, але бачу, што Табе, сапраўды, „няма калі нават пісаць". Дык абмяжуюся самым неабходным.

Дзякуй табе, дружа, за вершы, якія, як заўсёды, прачытаў з вялікім зацікаўленнем і з прыемнасцю. Вялікая страта, што не можаш прысвяціць больш часу творчай працы. № 12 „Полымя" атрымаў таксама. Радуюся, што часопіс расце, становіцца змястоўнейшым, цікавейшым і прыгажэйшым. Памагае чытачу-беларусу пазнаць сябе і знайсці сваё пачэснае месца „між народамі!"

Наступае Новы год. Жадаю Табе, дарагі Максіме, і Тваім Танкістам многа поспехаў, многа шчаслівых хвілін, а, галоўнае, моцнага здароўя. Каб ты не сагнуўся нават там, дзе „і вол сагнецца"!

Жадаю Твайму „Полымю" дайсці да кожнае беларускае хаты, якая так яго патрабуе!

Ну, а цяпер трохі аб сабе, мо цябе гэта парадуе. Атрымаў я прэмію ад Českeho hudelniho fondu за выкананне песень чэшскіх сучасных кампазытараў (за 1965-66 год). Апрача таго ў лістападзе г/г наспяваў на новую доўгаграючую пласцінку шэсць італьянскіх песень кампазытараў bel canta. Калі плітка выйдзе, прышлю.

На гэтым, браце, і кончу, каб не пісаць аб галоўным, каб не забіраць Твайго часу.

Шчырыя прывітанні сябрам.

Моцна абдымаю.

Твой Міхась.

***(працяг будзе)***

# Нашы карані

**CXII. „... і многіх звядуць"**

Кровапралітныя, знішчальныя войны Рэчы Паспалітай з паўстаўшымі пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага казакамі, потым з наступам войск маскоўскага цара, шведскім „патопам" і зноў супраць Маскоўскай дзяржавы працягваліся амаль бесперапынна каля 20 гадоў (з 1648 па 1667 гады). Што ж было прычынай гэтага няшчасця? Коратка кажучы, гэта былі імперыяльныя, захопніцкія памкненні тадышніх суседніх пануючых: рускага цара ды шведскага і польскага каралёў. Але ўсе яны свае палітычныя, зямныя, асабістыя амбіцыі прыкрывалі рэлігійнай місіяй. Зачэпкай стала пануючая ў тагачаснай Рэчы Паспалітай рэлігійная неталерантнасць, паўсюдныя праследаванні некаталіцкіх хрысціянскіх веравызнаўцаў, пазбаўленне іх грамадзянскіх правоў, нахабныя намаганні загнаць усіх „у адзін статак і пад аднаго пастыра" — у каталіцтва пад уладу папы рымскага. А ўсё гэта дзеля ўмацавання панавання на беларускіх, украінскіх і літоўскіх землях.

Казакі схапіліся за зброю і знішчалі каталікоў і уніятаў і ўсё каталіцкае і уніяцкае, бо каталікамі былі праследаванцы іхняй адвечнай праваслаўнай веры, роднай мовы і традыцыі, былі панамі і каралеўскімі ўраднікамі, што гналі іх на паншчыну, фізічна і маральна здзекаваліся над імі. Гэта была народная казацкая вайна ў абароны сваіх чалавечых правоў.

А што тычыцца маскоўскага цара, дык ён хоць і аб'яўляў, што ідзе на ратунак праваслаўным, то фактычна кіраваў свае войскі на беларускія і ўкраінскія землі Рэчы Паспалітай, каб захапіць іх, а калі тое не ўдасца, дык абрабаваць дашчэнту і вывезці як мага больш палон. Такім чынам гэтак званы „свой праваслаўны" цар быў для праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў зусім не лепшы за „чужога каталіцкага" караля, хоць яго падданыя і знішчалі каталікоў паноў, каралеўскіх служачых, каталіцкае і уніяцкае духавенства. Шведы ішлі ў Рэч Паспалітую таксама быццам бы абараняць сваіх братоў па веры, пратэстантаў, ды забівалі іхніх працаўнікаў — каталікоў і праваслаўных. На самай справе яны зусім не клапаціліся пра лёс сваіх пабрацімаў па веры, бо іхні кароль толькі выкарыстаў нагоду, каб пашырыць свае ўладанні. Так на трагічным лёсе праваслаўных і пратэстантаў у Рэчы Паспалітай збывалася сказанае Ісусам Хрыстом у Евангеллі: „Сцеражыцеся, каб хто не падмануў вас, бо многія прыйдуць ад імя Майго і будуць гаварыць, што гэта Я, і многіх звядуць" (Мк. 13, 5—6).

Гэтыя войны былі самымі трагічнымі для беларускага народа — у іх выніку загінула на беларускіх землях палова насельніцтва і было зрабавана, спалена і зніштожана ўсё, што толькі можна было зрабаваць, спаліць і зніштожыць. Калі ў канцы студзеня 1667 г. у беларускай вёсцы Андросава, што на Мсціслаўшчыне, упаўнаважаныя расійскага цара Аляксея Міхайлавіча і польскага караля Яна-Казіміра падпісвалі мірнае пагадненне (славуты Андрусаўскі мір), ад вярхоўяў Дняпра і аж па Віслу прасціралася вынішчаная войнамі, амаль бязлюдная паўпустыня, усланая магіламі і пажарышчамі ды зарослая хмызняком. Не трэба хіба ж дадаваць, што такім было і тадышняе Падляшша.

Калі ішло змаганне быць ці не быць Рэчы Паспалітай, кароль і ягоны ўрад хоць і неахвотна, але ўсё ж абяцалі роўнапраўе ўсім хрысціянам і нават забавязвалі каталікоў і уніятаў вярнуць праваслаўным адабраныя ў іх цэрквы і царкоўную маёмасць. Але калі вайна суцішылася, усе гэтыя гарантыі і абавязацельствы касаваліся і забываліся. Наставала яшчэ больш цяжкае, нічым не паўстрымаванае праследаванне вызнаўцаў некаталіцкіх веравызнанняў, нават выгнанне іх з Рэчы Паспалітай, як, напрыклад, арыян. Гэтага ўціску людзі не вытрымлівалі, і ўсё больш беларускай і ўкраінскай шляхты і мяшчанства пераходзіла ў каталіцызм, а залежных ад сябе простых людзей — сялян і чэлядзь — яны заганялі ў „халопскую" уніяцкую царкву. Каталіцызм успрымаўся як панская, польская вера і католікі пачалі лічыць сябе палякамі. Гэтак адначасова з адыходам ад праваслаўя людзі адыходзілі таксама і ад свае роднай мовы, культуры і традыцыі.

**Мікола Гайдук**

Публіцыст „Нашай нівы" востра атакаваў архірэя, ставячы яму ў закід дзейнасць супраць прынцыпаў хрысціянскай рэлігіі: „І поклік архірэя проціў жыдоў, ці не ёсць гэта дзікі глум над самым Распятым? І як ганебны сорам не заліў твар „служыцеля" Хрыста пры ўспамненню, што і сам Хрыстос паходзіў з жыдоўскага роду? Архірэй палохаў пеклам. За што ж? За брацкую людскую згоду, якая патрэбна на тое, каб даць нарэшце мір і спакой замардаванаму краю!"

Моцны абвінавачы матыў загучыць у канцы артыкула, дзе аўтар заявіў: „І не ў адным Гродне, а ва ўсім нашым краю рабілася тое самае. І біскупы, і архірэі, і папы, і ксяндзы апанавалі цёмнага мужыка, запалохалі яго пеклам і мужык не вытрымаў, здаўся. Чаму гэтае не рабілася ў Расеі? Ніводзін архірэй не адважыўся вымавіць да мужыцкіх выбаршчыкаў слова. А таму, што там мужыкі ўжо кіруюцца сваім розумам і не дапускаюць архірэяў, біскупаў і маршалкаў камандаваць сабой".

У дзевятым нумары „Нашай нівы" за 1907 год у рубрыцы „З Беларусі і Літвы" была змешчана інфармацыя з Пасынкаўскай воласці Бельскага павета. Публікацыя гэта вельмі добра ілюструе практыкі тагачаснай паліцыі. Аўтар, Вінцук Грушка, піша наступнае: „Ночаю 18 февраля ў хату мужыка Сцепанюка ў вёсцы Локніцы ўбіўся прыстаў шукаць бунту. Але ж не папаўшы на што цікавае, забраў колькі нумароў „Нашае нівы". А пасля насеў на пісара валаснога, чаму той выдаець такую „бунтаўскую" газету, ды наказаў, каб больш яе нікому не аддаваў".

Вельмі цікавая публікацыя аўтарства Гарасіма Серага паявілася ў 11 нумары „Нашай нівы". У рубрыцы „З усіх старон" аўтар апісаў новы царкоўна-парафіяльны падзел у Чыжоўскай парафіі. У гэтай публікацыі створана цікавая карціна рэлігійных непаразуменняў, якія былі характэрнай з'явай для некаторых рэгіёнаў Беларусі. Паслухайма аўтара:

„У 1893 годзе па распараджэнню царкоўнага начальства без усякай просьбы са стараны мужыкоў аддзялілі некалькі вёсак Чыжоўскай парафіі: Курашава, Койлы, Лянева, Лушчы і Ляды і зрабілі з іх асобную парафію Курашэўскую. Мужыкі любілі і старую парафію і старыя могілкі, дзе адпачываюць іх блізкія, родныя, бацькі і дзяды, а затым пры ўсякай царкоўнай патрэбе хіліліся да старой парафіі. Але тамака іх не прымалі, а новай парафіі яны не хацелі. Бывалі нават здарэнні, што і нябожчыкаў хавалі без папа. Сем гадоў ужо клапоцяцца мужыкі, каб іх перанеслі да старой парафіі. Пісалі яны жалабы да ўсіх царкоўных уласцей, ездзілі да обэр-пракурора Пабеданосцава, падавалі прашэнні і цару. Усё дарма. Не дабіўшыся нічога ад духоўнага начальства і цара, упаўнамочаныя з вёскі Ляды звярнуліся ў феврале месяцы гэтага году з тою самаю просьбаю да Віленскага генерал- губернатара. У гэтым прашэнню яны пішуць, што калі генерал-губернатар не зважыць іх просьбы і не прыпіша да старой царквы, то яны пяройдуць або ў каталіцтва, або ў якую-небудзь другую веру".

**Алесь Барскі**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Толькі энтузіясты!

У Рыбалах і наваколлі калядуюць разам і хлопцы, і дзяўчаты.

— Ну, зразумела, што пойдзем сёлета калядаваць, — кажуць Давід і Агнешка, вучні ПШ у Рыбалах. — Бо што гэта за Каляды без калядавання? Такое *Рудзво* трэба справіць, каб пазней успамінаць яго цэгы год.

Мае маладыя сябры, жменька інтэлігентных і ўражлівых навучэнцаў, што ходзяць на беларускую мову, займальна расказваюць пра падрыхтоўку да Каляд.

Рыбалаўскія навучэнцы развучаюць калядкі на ўроках рэлігіі і музыкі. Часам сустракаюцца ў сяброўкі, каб падмацаваць рэпертуар і паслухаць парад старэйшых людзей.

Толькі 30 асоб на 110 вучняў ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Але гэта сапраўдныя энтузіясты!

— На перапынках, а таксама і па хатах дзеці размаўляюць ужо папольску, — кажа Іаланта Мордань.

Настаўніца вядзе ўрокі ў сёмым і восьмым класах. На 32 асобы толькі пяць жадаюць спазнаць сваю літаратурную мову.

Агнешка Максімюк і Марыся Паўлючук кажуць:

— Раней хадзіць на гэтыя ўрокі прыказалі нам бацькі. А як падраслі, то і самі ўжо хацелі пазнаваць беларускую мову.

Іншыя вучні, як Анэта Іванюк, Агнешка Кандрацюк, Кася Алексяюк, Ярэк Каролька, Анэта Паўлючук ці Давід Раманчук самі пачалі цікавіцца гэтым прадметам.

— Але заўсёды ёсць так, што гэтыя дзеці маюць падтрымку ў сям'і, — кажа спадарыня Мордань — Давід, на той прыклад, унук Анны Раманчук, вядомай энтузіясткі беларускай песні і сцэнічнай творчасці, ці Томэк Андраюк, якога бацькі гралі ў вясковым беларускім тэатры. Цікава, што большасць пералічаных энтузіястаў беларускай мовы родам з такіх вёсак як Паўлы і Целушкі.

А з ПГРа Рыбалы, адкуль аж палова вучняў, толькі лічаныя адзінкі цікавяцца гэтым прадметам. Беларускай мове вучаць тры настаўнікі: у шостым класе — дырэктар школы Яўгенія Грыб, у малодшых класах — Ніна Харытанюк, у старэйшых — Іаланта Мордань.

— На ўроках беларускай мовы мы знаёмімся з гісторыяй найбліжэйшага наваколля, — кажа Давід.

Хлапчука зацікавіла беларуская друкарня ў Заблудаве і мінуўшчына Бельска-Падляшскага.

— Часта рыхтуемся да конкурсаў, — кажа спадарыня Мордань.

У дэкламатарскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы прымалі ўдзел Агнешка Максімюк і Эліза Сцепанюк. А ў час тэатральнага агляду вучні з Рыбалаў паставілі „Пінскую шляхту" В. Дуніна-Марцінкевіча і занялі трэцяе месца. Самым бліскучым акцёрам паказаўся Тамаш Андраюк.

— Ён як суддзя паставіў на калені ўсю камісію з паняй візітатар Тамарай Русачык на чале, а таксама старшыню ГП БГКТ Янку Сычэўскага і сакратара гэтай арганізацыі Валянціну Ласкевіч. За гэта і атрымаў ён спецыяльную ўзнагароду, — успамінаюць у школе.

Іаланта Мордань дадае:

— Нашы вучні звычайна не паступаюць у беларускі ліцэй. Яны перш за ўсё ідуць у сярэднія і прафесійныя школы ў Беластоку. А беларускай мове вучацца таму, што маюць такую духовую і інтэлектуальную патрэбу.

Настаўніца прадставіла дзве дзяўчынкі трэцякласніцы — Асю Васілеўскую і Агату Пашко. Дзяўчаткі, хаця і з каталіцкіх сем'яў, ходзяць на беларускую мову. Гэты прадмет, як самі сказалі, вельмі ім падабаецца. У ПШ у Рыбалах аж 70% дзяцей праваслаўнага веравызнання.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*



*Найстарэйшыя навучэнцы беларускай мове з настаўніцай Іалантай Мордань.*


*Ася Васілеўская і Агата Вашко.*

## Вершы Віктара Шведа

### Лагічныя адказы

Унука дзед спытаў малога:
— Навошта чалавеку ногі?
Дзедку адказвае ўнук Стах:
— Каб не хадзіў ён на руках.

Чарговае пытанне ўнуку:
— Навошта чалавеку рукі?
— Рукі патрэбныя таксама,
Каб чалавек не еў нагамі.

### Адкуль малпе ведаць?

Настаўнік нечакана
На ўроку дзецям кажа:
— Малпа за тыдзень бананаў
З'ядае столькі, як важыць.

Тут вырваўся з пытаннем
Валодзя-непаседа
Адносна спажывання:
— Адкуль жа малпе ведаць?

# Развіццё нацыянальнага жыцця ў БССР у 20-х гадах

У 20-х гадах камуністы дазволілі ўсім народам Савецкага Саюза развіваць сваю нацыянальную культуру і мову. Савецкая Беларусь перажыла таксама сваю дэкаду рэнесансу беларускасці. Праводзячы такую палітыку бальшавікі з'ядналі сабе частку нацыянальнай інтэлігенцыі, якая раней брала ўдзел у стварэнні структур беларускай дзяржаўнасці. Ініцыятарамі і аўтарамі палітыкі беларусізацыі былі Аляксандр Чарвякоў, Цішка Гартны, Усевалад Ігнатоўскі, Аляксандр Бурбіс. У 1922 годзе ўзніклі Мінскі універсітэт і Інстытут беларускай культуры, у некалькіх гарадах пачалі дзейнічаць курсы беларусазнаўства з мэтай падрыхтоўкі кадраў для дзяржаўных установ. Тэмпы развіцця працэсу беларусізацыі рэспублікі і пашырэнне яе тэрыторыі ў 1924 і 1926 гадах на Віцебшчыну і Магілёўшчыну паўплывалі на тое, што нават палітыкі эміграцыйнага беларускага ўрада — Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Цвікевіч — прызналі законнымі ўлады БССР.

У палове 20-х гадоў беларуская мова мела ўсе прыкметы дзяржаўнай. Выдавецтвы, прэса, тэатры, школы, адміністрацыя, партыйны апарат працавалі на беларускай мове. Пры канцы 20-х гадоў камуністы змянілі сваю нацыянальную палітыку. Сярод стваральнікаў беларускай савецкай дзяржаўнасці, пісменнікаў, вучоных пачалі шукаць нацыяналістаў. У пачатку трыццатых гадоў большасць беларускай інтэлігенцыі сядзела ў турмах, канцлагерах, ці звычайна была расстраляна. Змаганне з беларускай культурай прадаўжалася камуністамі яшчэ доўгія гады.

# Міфы старой Беларусі

### 14. Еўнік

Еўнік жыве ў сушні (еўні) — памяшканні, дзе сушацца снапы збожжа ці лёну. Звычайна сядзіць ён у печы, часам на сушыльнай жэрдцы. Нячысцік пераважна нябачны. А калі прымае выгляд, то ўяўляе сабой чорную чалавечападобную масу, дзе сажа і павуціннe. У еўніка як вуглі гарэць вочы. Але разгледзець у яго галаву, ногі ці рукі немагчыма.

Задача нячысціка — ахова сушыльнай печы. Ён сочыць ці правільна гарыць агонь, ці сушыцца збожжа, часам упускае карысны скразняк. Па начах замятае еўню, вее зерне, трэпле лён, а ў разумных гаспадароў нават малоціць цэпам.

Вельмі падабаецца еўніку, калі ў сушні наладжваюць лазню. Тады ёсць магчымасць змыць абліплую сажу і пыл. Еўнік звычайна сябруе з лазнікам — уладальнікам лазні. Абодва яны сваякі дамавіка.

Еўнік не баіцца звычайнага пажару. Калі ўспыхне агонь, нячысцік пакідае сваё жытло і спакойна назірае за стыхіяй. Пасля пажару і адыходу людзей ён залазіць у печ і тут жыве аж адбудуецца новая сушня, куды адразу і пераходзіць.

Еўнік баіцца маланак. Ад нечаканага грамавога ўдару нячысцік датла згарае. Калі такое здарыцца, другі еўнік не пойдзе на тое месца.

Даўней сушні часта гарэлі. Беларускія сяляне верылі, што пажар выклікае прагневаны еўнік. Таму выказвалі нячысціку вялікую пашану. Заўсёды, калі пачыналі класці снапы для прасушкі, кідалі першы сноп у агонь. Апошні сноп кідалі еўніку дзеля „занятку".

# Францыск Скарына

## альбо Як да нас прыйшла кніга

*(працяг; пачатак у 47 н-ры)*

**„Кніга" з драўлянымі старонкамі**

У той самы час, калі для запісу вялікіх тэкстаў людзі карысталіся папіруснымі скруткамі, для меншых яны часта ўжывалі іншыя пісьмовыя матэрыялы. Пра камень казаць асабліва не будзем. У тыя часы ён быў як бы „гербаваю паперай". На ім выбівалі найбольш значныя дзяржаўныя акты, якія хацелі пакінуць для памяці на вякі. Для розных жа грамадскіх аб'яў, распараджэнняў ужывалі вялікія дошкі. Іх бялілі крэйдаю і тады пісалі на іх чорнаю фарбаю. Такія дошкі зваліся ў рымлян „альбум" (па лацінску „белы").

У штодзённым жыцці для звычайных патрэб — напісаць пісьмо, нешта занатаваць для сябе на блізкі час або падлічыць што-небудзь — былі ў абыходку вошчаныя, ці, як іх яшчэ называлі, васковыя таблічкі.

Вы таксама для сваіх вучнёўскіх патрэб можаце зрабіць іх. Дарэчы, у старажытнасці вучні заўсёды карысталіся такімі васкоўкамі. А на папірус пераходзілі тады, калі ўжо ўмелі добра пісаць і мелі што вартае запісаць. Бо хто ж ім даў бы псаваць іхнімі крымзолямі такі каштоўны папірус?!

Калі з'явіліся васкоўкі, на іх пісалі металічным стрыжнем — тонкім, як шыла, з аднаго боку, а з другога — пляскатым або з круглаю галоўкай. Адным канцом пісалі, а другім пры патрэбе — сціралі. Працягнуў пісец шарыкам па васкоўцы — і зноў яна чыстая, як новая, зноў на ёй можна пісаць.

Аднак гэтую вострую прыладу благія вучні пачалі выкарыстоўваць і ў сваіх бойках. Таму металічныя стрыжні былі пасля забаронены. А для пісьма ўжываліся ўжо не шкодныя для здароўя палачкі з птушыных касцей або з касцей іншай дробнай жывёлы. Гэтая пісьмовая прылада па-лацінску называлася стылос. Ад яго ў нашу мову апрача сціла ўвайшло яшчэ два словы. Адно — праз французскую мову — слова „стыль". Ім цяпер называюць адметны лад пісьма, чым адзін пісьменнік адрозніваецца ад другога. А праз італьянскую мову — слова „стылет" як назва халодной зброі...

У старажытнасці часта злучалі ў адно не дзве, а тры, чатыры і больш дошчачак. Тады на такой васкоўцы можна было запісаць і што-небудзь большае, чым звычайную нататку ці пісьмо. Але васкоўка так ніколі кнігаю і не стала. Чаму? Ды, відаць, таму, што воск — не той матэрыял, які б трывала трымаў напісанае. Васкоўка падказала чалавецтву форму нашай цяперашняй кнігі.

***(працяг будзе)***

**Анатоль Клышка**

# Конкурс, конкурс, конкурс

*(літаратурныя гульні н-р 11)*

Адкажыце на пытанні. Адказы дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Аўтары прынамсі трох правільных адказаў могуць выйграць цікавыя беларускія кніжкі. Просім адзначыць свой узрост.

1. Назавіце сапраўднае прозвішча Змітрака Бядулі.
2. Хто з літаратараў-белавежцаў піша на падляшскім дыялекце?
3. Назавіце прозвішча беларускага ксяндза-паэта, які друкаваўся пад псеўданімам Казімір Сваяк.
4. Хто з беларускіх літаратараў быў кіраўніком дзяржавы БССР?
5. Які звер асацыюецца не толькі з Белавежскай пушчай, але і Беларуссю?

Адказ на літаратурны конкурс н-р 7

1. Францішак Скарына вучыўся ў **Кракаўскім і Падуанскім універсітэтах**.
2. Словы: „Не пакідайце мовы сваёй роднай, каб не ўмёрлі" змешчаны ў прадмове да „Дудкі беларускай" **Францішка Багушэвіча**.
3. Паэму „Ён і яна" напісаў **Янка Купала**.
4. Надзея Артымовіч аўтарка зборнікаў паэзіі: **„У сне, у болю слова" (1979), „Роздумы" (1981), „Сезон у белых пейзажах" (1990), „З неспакойных дарог" (1993), „Дзверы" (1996)**.
5. Зборнік легенд „Белавежскія быліцы і небыліцы" належыць **Міколе Гайдуку**.

Дарэчы, гэты цікавы зборнік выйгралі пераможцы нашага конкурсу — вучні ПШ у Кнарыдах.

# Вучнёўская творчасць

Малюнак Уршулі Тарасэвіч — вучаніцы класа VII ц з Гарадка.



**Ад рэдакцыі:** Прывітанне, Уршуля. Вельмі спадабаўся твой пераклад казкі пра трох дурняў. На жаль, не будзем яе друкаваць. У „Зорцы" н-р 34 друкавалі мы гэтую казку пад загалоўкам „Тры разумныя галовы". Прапаную табе наведаць мясцовую бібліятэку, адшукаць „Ніву" н-р 34 і параўнаць свой і прафесійны пераклад гэтай казкі. Думаю, што гэтая практыка прынясе табе многа карысці і задавальнення.

**Зорка**

# Дурны брат

Жылі-былі тры браты, два былі разумныя, а трэці — дурны. Аднойчы разумныя браты выбраліся ў горад. Перад выездам гавораць дурню:

— Слухай нашых жонак і шануй іх як сваю родную маці, а мы табе за гэта прывязем чырвоныя боты і чырвоную кашулю.

Паехалі разумныя браты, а дурны лёг на печ і ляжыць. Братавыя гавораць яму:

— Чаму ляжыш і нічога не робіш? Злазь з печы і прынясі вады!

Узяў дурны брат вядро і пайшоў. Выцягнуў вядро вады, глядзіць — а там шчупак. Падумаў і гаворыць:

— Ах, якое шчасце! Звару шчупака, наемся да волі.

Але шчупак неспадзявана загаварыў чалавечым голасам:

— Не еш мяне, пусці ў ваду, а я табе аддзячу.

— Якім чынам?

— Споўню кожнае тваё патрабаванне. Скажы, напрыклад: *На прыказ шчупака, мая воля така: ідзіце, вёдры, самі ў хату.*

Як толькі дурны брат сказаў тыя словы, вёдры самі пайшлі ў хату і сталі на сваё месца. Жанчыны глядзяць і дзівуюцца: „Нібы такі дурны, а вёдры самі яму ваду носяць!"

Пайшоў дурны ў хату, лёг на печ, а братавая зноў гаворыць:

— Што так ляжыш? Дроў няма, едзь у лес і прывязі.

Узяў брат дзве сякеры, сеў, але не запрог каня і кажа загад: *На прыказ шчупака, мая воля така: ганіце, сані, у лес.*

Пераязджаючы цераз горад, сані паспіхалі людзей на дарозе. Людзі пачалі крычаць:

— Лавіце яго! Лавіце! — але сані былі ўжо далёка.

Заехалі сані ў лес, устаў дурань і гаворыць:

— Бярыцеся, сякеры, за работу!

За хвіліну сані былі ўжо поўныя дроў, а дурны гаворыць:

— А цяпер вырубайце мне тоўстыя дубінкі.

Сякера скокнула, вырубала дубінкі і ўскочыла на сані. Дурань сеў і вяртаецца дамоў. Едзе цераз горад, а тут грамада людзей чакае яго. Людзі пачалі лавіць сані, а дурань загадвае: *На прыказ шчупака, мая воля така: пабіце, дубінкі, людзей!* Выскачыў дубняк і пачаў ламатаць направа і налева. Людзі паўцякалі, а дурань паехаў дадому. Задзіваваліся людзі, такое бачыўшы. Хутка навіна і да караля дайшла. Той загадаў прывесці чарадзея да сябе. Каралеўскія слугі зайшлі ў хату дурня і гавораць:

— Едзь да караля, дастанеш у падарку чырвоныя боты, чырвоную кашулю і чырвоны каптан.

— *На прыказ шчупака, мая воля така: едзь, печ, да караля,* — сказаў хлопец, сеў на печку і печка памчалася.

Кароль хацеў аддаць яго ка́ту, але дурань спадабаўся дачцэ караля. Яна пачала прасіць бацьку, каб ён дазволіў з ім павянчацца. Злосны кароль даў згоду, але прыказаў слугам укінуць іх у бочку і спусціць у мора. Доўгі час плавала бочка па моры, урэшце каралеўна просіць мужа:

— Зрабі так, каб яна выкінула нас на бераг.

— *На прыказ шчупака, мая воля така: няхай мора выкіне бочку на бераг,* — сказаў хлопец.

Хваля выкінула бочку на бераг. Маладыя выйшлі з бочкі і пачалі думаць, што рабіць. Неўзабаве мелі яны дом-замак. Дапамог ізноў шчупак.

Раніцай кароль убачыў новы замак. Пачуўшы, хто там жыве, паклікаў да сябе маладажонаў і дараваў ім. Браты таксама прыехалі на вяселле і добра гулялі. А маладыя жылі доўга і шчасліва.

**Аня Пракапюк з Трывежы, VII кл. ПШ у Новым Корніне**

# Польска-беларуская крыжаванка № 52

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Jak / Jol | Cypr | Zbocze, stok | Pragnienie | Kolonia | ▼ | Kum / Sierota | ▶ | | |
| ▶ ▼ | ▼ | Mur | ▼ ▶ | ▼ | | | Banan / Licho | ▼ | Obrzeże |
| ▶ | | Imię chińskie / Usta | ▶ | | | Lakier | ▶ ▼ | | ▼ |
| Miejsce, w którym stopił się śnieg | ▶ | ▼ | | | | | | | |
| Śmiech, chichot | ▶ | | | | | Chan | ▶ | | |
| | Karaluch | ▶ | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванкі н-р 48**: жанр, жар, вежа, жарт, памежжа, жар, ружа, муж.

**Крыжаванка Касі Леанюк**: лозунг — **Юны мастак.**

Узнагароды — **каляровыя фарбы** выйгралі: **Ева Матолька** з Гарадка, **Павел Ільяшук** з Кленік, **Ева Загон** і **Дарак Баена** з Бельска-Падляшскага.

**Віншуем!**



Талон „Зоркі" № 52
28.12.1997

# Мроі Галіны Дзягілевай

Беларускі паэтычны тэатр аднаго актора „Зніч", якога мастацкім кіраўніком з'яўляецца Галіна Аляксееўна Дзягілева кожны тэатральны сезон пачынае ў Зэльве, мястэчку ў Гродзенскай вобласці, на радзіме Ларысы Геніюш. Не маючы ўласнай сцэны, тэатр працаваў на розных тэатральных пляцоўках — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у тэатры Я. Купалы (малая сцэна), у ТЮГу, у цэнтры „Каляндар", у ІНВЦэнтры. Ад кастрычніка 1995 г. тэатр месціцца ў мурах касцёла св. Сымона і св. Алены — у Дольнай зале, пл. Незалежнасці, 15. Спектаклі тэатра бачыліся ў Полацку, у Рызе, у Вільні, у Віцебску, у Гародні, у Нямеччыне, на Беласточчыне (1990, 1993 г.).

Сустрэліся мы ў будынку мінскай філармоніі, дамоўленыя і з кампазітарам Уладзімірам Казбанавым.

— Я вельмі ўдзячная Ніне Осіпавай, якая дапамагла рабіць у філармоніі мой творчы юбілейны вечар, у які быў уключаны спектакль „Віленскія мроі", — кажа Галіна Дзягілева. — Спектакль гэты расказвае пра сапраўднае каханне, нападуладнае нават смерці. Лірычным героем яго з'яўляецца Іван Луцкевіч, якога мы ведаем як дзеяча беларускага Адраджэння пачатку стагоддзя, асветніка, стваральніка газеты „Наша ніва" і чалавека, які зрабіў неацэнны ўнёсак у станаўленне беларускай дзяржаўнасці. У спектаклі ён убачаны вачыма кахання. Пра яго расказвае Юльяна Вітан-Дубейкаўская з роду Мэнкс, віленская немка, якая прысвяціла жыццё беларускаму Адраджэнню, бо падзяліла найвышэйшыя духоўныя ідэалы з каханым чалавекам. І светлым, і трагічным было гэта каханне. Яно пераплялося з гістарычнымі падзеямі пачатку стагоддзя, лёсам нашай Бацькаўшчыны. Ды невылечная хвароба Івана не дала здзейсніцца марам закаханых пра асабістае шчасце. Спектакль створаны паводле ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай, Кветкі Вітан, як падпісвала яна свае мастацкія творы на беларускай мове. „Мае ўспаміны" напісаны ў Нюрнбергу ў 1953 годзе і здзіўляюць чытачоў жывасцю пачуцця, якое захавала аўтарка праз сорак гадоў пасля смерці каханага, пасля поўнага выпрабавання жыцця без яго...

— Шлях мемуараў Ю. Вітан-Дубейкаўскай да беларускага чытача быў доўгі — імя Івана Луцкевіча на Беларусі тае пары лічылі за лепшае не згадваць. Твор трапіў у Лондан, потым — у Амерыку, а пры канцы 80-х гадоў у Вільню. Пляменнік Івана Луцкевіча, Лявон Луцкевіч — перадаў машынапіс вам...

— Так „Мае ўспаміны" сталіся асновай спектакля, у які ўвайшлі і цудоўныя вершы беларускай паэткі з Бельска-Падляшскага Надзеі Артымовіч...

*Ён хварэў*
*на хваробу*
*невялікую*
*ён шукаў*
*толькі*
*крыху праўды*
*і пакалечыўся...*
*Ён не знаў*
*што хвароба*
*нішчыць яго цела*
*толькі кропля крыві*
*што асталася за яго следам*
*чырванее*
*і*
*крычыць...*

— І вось на мой вечар, — працягвае Г. Дзягілева, Ніна Осіпава запрасіла Уладзіміра Казбанава з яго калектывам выступіць у другой частцы. Мы заўважылі, што супадаюць нашы памкненні, што можам гэта выкарыстаць у арганізацыі нашых абанементных спектакляў (у нас тры формы монаспектакляў — спектаклі драматычныя, па паэзіі і спектаклі-абанементы), у якіх галоўная дзеючая асоба — у асноўным пісьменнік ці музыкант. Былі прадстаўлены класікі і маладзейшыя, м.інш. Уладзімер Арлоў, Рыгор Барадулін, Сяргей Законнікаў, Сяргей Кавалёў, Пятро Васючэнка, Артур Вольскі, Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Алег Бембель (Зніч), Васіль Быкаў, Генадзь Бураўкін, Людміла Рублеўская і Віктар Шніп, Сяргей Панізнік, Васіль Жуковіч, успаміналі мы Сяргея Новіка-Пеюна. А артысты тэатра гэта і Аляксандр Ткачонак, Валеры Шушкевіч, Леанід Сідарэвіч, Раіса Астрадзінава, Уладзімір Шэлестаў, рэжысёры — Канстанцін Гусеў, Вольга Клебановіч, Віргінія Тарнаўскайтэ, Уладзімір Матросаў, Аляксандр Міронаў, Галіна Карбаўнічая, Уладзімір Савіцкі, Галіна Дзягілева, Уладзімір Забела, Дзмітры Марынін, Дзмітры Саладуха. Літаратурны рэдактар — Людміла Рублеўская. З Уладзімірам Казбанавым будуць спектаклі на розныя тэмы, і калядкі, і іншыя святы, і драматычны музычны спектакль па творах Міры Лукшы. Мару гэта прадставіць беларусам, якія жывуць на Беласточчыне.

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*



*Уладзімір Казбанаў, Міра Лукша, Галіна Дзягілева, Ірына Клюйко і Святлана Сергіеўская працуюць над спектаклем.*

# Тутэйшая восень

— Я люблю ўсё, што сваё. Хачу паказаць прыгажосць сваёй вёскі і навакольнай прыроды, — заяўляе Уладзіслаў Завадскі. — Бо чалавек, які марыць толькі аб Беластоку ці Варшаве, часта не заўважае тутэйшага хараства.

У галерэі Беларускага музея ў Гайнаўцы вечаркам 25 лістапада 1997 года сабралася чалавек трыццаць. Спадар Віктар Кабац, арганізатар галерэйных сустрэч, крыху хвалюючыся, разглядаецца па фатаграфіях развешаных па сценах. Ён жа рыхтаваў гэтую выстаўку. Супольна з Уладзіславам Завадскім, аўтарам фатаграфій, назвалі яе „Тутэйшая восень". На здымках бачым восень жыцця нашай вёскі, старэнькіх яе жыхароў, маленькія, старэнькія хаткі і цудоўную восень у пушчанскай прыродзе. Прыгажосцю захапляюць пушчанскія краявіды. Пра выстаўку гаворыць сам Завадскі.

— Браў я фотаапарат, ехаў у пушчу і фатаграфаваў тое, што мяне захапляла. На маіх здымках мусіць быць цікавае святло, без якога фатаграфія брыдкая. Маёй марай было зрабіць захад сонца ў Белавежскай пушчы, што здзейснілася. У працы карыстаюся простымі фотаапаратамі, хаця мяняю аб'ектывы. Выстаўка звязана з восенню, — апошнім этапам у жыцці прыроды і людзей. Непаўторнае ўражанне ў час гэтай пары года выклікаюць колеры. Нядаўна пачаў я рабіць каляровыя здымкі і апраўдваюцца яны, бо паказваюць намнога больш, чым чорна-белыя.

Ужо здаўна здымкі Уладзіслава Завадскага на старонках „Нівы" паказваюць нашу рэчаіснасць і акружаючае наваколле. Найбольшага поспеху фатограф дабіўся на выстаўцы „Зіма ў аб'ектыве" ў Ломжы, дзе атрымаў спецыяльнае вылучэнне. Зараз аўтар паказвае таксама і зімовы краявід на чорна-белай выстаўцы ў Гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы.

— Загаловак „Тутэйшая восень" адлюстроўвае на фатаграфіях нашу тутэйшую рэчаіснасць, — кажа фатограф. — Старэнькія бабулі і дзядулі паказваюць рэальнае становішча, у якім апынулася наша вёска.

Пра сумнае дазваляе забыць непаўторная прырода.

**Аляксей Мароз**

# Старакорнінскі званар

**Вёсцы Стары Корнін, што ў Гайнаўскай гміне, мінула чатырыста гадоў. Сёння ў вёсцы можна налічыць 75 будынкаў, з ліку якіх 5 пустуе. Жыве тут 250 чалавек. 65 вяскоўцаў займаюцца яшчэ земляробствам. У вёсцы пракладзены водаправод, працуюць пошта і школа, у якой вучыцца 40 дзетак са Старога Корніна, Ягаднік, Карыцік і Пасечнік.**

Адзін са старажылаў гэтай вёскі, 73-гадовы пенсіянер **Мікалай ШЭШКА** так расказвае пра сваё жыццё:



— Маім бацькам, Рыгору і Анне, пры санацыі жылося вельмі дрэнна. З бежанства, а былі яны пад Самарай, вярнуліся ў 1921 годзе на поўнасцю разбураную гаспадарку, разваленыя будынкі. Не было ў іх ні каня, ні воза. Маці пайшла да людзей на заробак: жала сярпом, капала бульбу, каб пракарміць трое маленькіх дзяцей. Калі пайшлі мы ў школу, не было грошай купіць сшытак (які каштаваў тады 8 грошаў) ці аловак (12 грошаў). На аловак трэба было прадаць тры курыныя яйкі. Закончыў я 4 санацыйныя класы і два гады хадзіў у школу пры савецтах. Тады на плябаніі ў бацюшкі пасялілі Сельсавет, а мой бацька быў у ім старажам. Памагаў я бацьку і такім чынам зарабіў на боты.

Калі ў 1941 г. прыйшлі немцы, мяне 10 верасня вывезлі на прымусовыя работы. Спачатку на 3 месяцы капаць бульбу ва Усходняй Прусіі, а потым саслалі ўглыб III Рэйха, дзе прабыў я да канца вайны.

Пасля вайны жылі мы з братам у адной хаце. Бацька ўжо быў стары, пераваліла яму за семдзесят. Цяжка было, але будавацца трэба. Самі вазілі калоды з лесу, самі пілавалі, самі ставілі.

У 1948 г. ажаніўся брат. У наступным годзе стаў я працаваць манцёрам. Электрыфікавалі мы толькі што заснаваныя калгасы па вёсках — у Крывятычах, Ягуштове, Пасынках, Крывой, Койлах, Махнатым. У Койлах сустрэў я сваю будучую жонку, Надзю, і ў 1951 г. пабраліся мы шлюбам. Потым з'явіліся на свет дзеці: дачка і сын. Па просьбе жонкі вярнуўся я на гаспадарку. Было ў нас 8 гектараў зямлі. Жонка была выдатнай краўчыхай. З-пад яе рукі ў 50-х гадаў выйшла 8 маладых вучаніц. Шыла яна ўсё — жаночае і мужчынскае адзенне.

Пры Беруце не давалі будаўнічых матэрыялаў для прыватнікаў, толькі ўсіх агітавалі і гналі ў калгасы.

У 1955 годзе стаў я інвалідам. Пілавалі мы на дыскавай піле матэрыял на стадолу. Дошка так нешчасліва ўпала на пілу, што выбіла мне вока. Потым, калі далі мне інваліднаю пенсію, дваццаць гадоў працаваў я саматужнікам у Інвалідным кааператыве. А зямлю перадалі мы калгасу, у якім стала працаваць жонка. Цяпер абое мы ўжо на пенсіі.

З 1950 года, сорак гадоў быў я старажам і званаром у царкве, з якой суседнічае наш панадворак. Наша дачка Марыя працуе ў Гайнаўцы ў Настаўніцкім доме, а сын Леанід служыць святаром.

Ад калгаса атрымалі мы паўгектарны прысядзібны ўчастак і гектар пашы. Трымаем дзве каровы і цяля. Цяпер занятак у мяне такі: устаю раніцай, даю кароў ды вязу малако на пункт скупкі. Апрача гэтага садзім бульбу, загатаўляем сена, дровы. Рэгулярна наведваю царкву, бываю на царкоўных фэстах у суседніх прыходах — мяне там усе ведаюць...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Жыў у Белавежы вядзьмар

Называўся ён Пётр Мілько. Нарадзіўся ў дугой палове XIX ст. у маленькай вёсачцы Вароні Бор, што знаходзілася ў паўночнай частцы Белавежскай пушчы (зараз на беларускім баку). У Белавежу, дзе пражыў усё сваё дарослае жыццё, прыехаў пад канец мінулага стагоддзя. Тут ажаніўся. Дачакаўся чацвёра дзяцей — дзвюх дачок і двух сыноў. Белавежцы падазравалі яго, што сваю жонку прымусіў ён да замужжа пры дапамозе чараў. Сам ён быў мужчынам бадай брыдкім, сярэдняга росту, пад старасць насіў бараду. Меў непрыемны позірк. Белавежцы называлі яго не толькі ведзьмаром, але і чарнакніжнікам, таму што меў ён чорную кніжку, якую выкарыстоўваў пры чараванні. Тыя, якія бачылі, гаварылі, што ўсе старонкі ў ёй, уключна з вокладкамі, былі чорныя, літары ж — белыя.

Мілько, як большасць белавежскіх мужыкоў, абрабляў летам зямлю, зімой жа падзарабляў, вывозячы з пушчы драўніну. Аднаго разу, а было гэта яшчэ ў царскія часы, супольна з іншымі вазакамі пайшоў у Праўленне пушчы за выплатай. Касір не спяшаўся плаціць грошы, увесь час кудысьці хадзіў. Знервавала гэта Мілько. Далікатна ўсё ж такі ён звярнуўся да ўрадніка з просьбай, каб той пачаў іх абслугоўваць. Дарэмна! Чарнакніжнік не стрымаў гэтага, штосьці там пашаптаў сабе пад носам і сказаў сябрам: „Зараз пабачыце, будзе брахаць як сабака!" І, сапраўды, касір нечакана для ўсіх увайшоў на карачках пад стол і пачаў брахаць. Працягвалася гэта з пятнаццаць хвілін, аж нарэшце вазакам абрыдла смяяцца. Пачалі прасіць Мілько адчараваць касіра. Раптам касір, быццам нічога не сталася, выйшаў з-пад стала і пачаў выплачваць грошы.

П. Мілько быў госцем амаль на кожным вяселлі ў Белавежы. Тыя, якія „забылі" яго запрасіць, хутка гэтага шкадавалі. Чарнакніжнік у такіх выпадках выклікаў ненармальныя паводзіны маладой пары. Бацькі маладых хоцькі-няхоцькі беглі да Мілько, моцна яго перапрашалі за свой „недагляд" і ветліва запрашалі на сямейную ўрачыстасць. Неразважна таксама было раззлаваць Мілько падчас вяселля. Тады ён прымяняў свае незвычайнае ўменне. Расказвае 91-гадовая Надзея Руско:

— У 1913 г. мой дзед Лука Пісарэвіч аддаваў сваю дачку Сафію замуж. Таму, што дзед быў ляснічым, а і зяць працаваў пісарам у Праўленні пушчы, на вяселле запрасілі таксама ўраднікаў з Праўлення. Вядома, не магло не быць Мілько, з якім дзед быў у дадатак парадnёны. Гасцей падзялілі на дзве групы. У адным пакоі балявалі ўраднікі, бацюшка і дыякан, у другім — простыя вяселнікі. Мілько трапіў да тых другіх. Хіба пакрыўдзіўся, бо неўзабаве перанёсся да „лепшых" гасцей. Убачыў яго дыякан, а паколькі добра ўжо падпіў, пачаў выганяць чарнакніжніка. Мілько яму на тое сказаў: „Ты, беламызы, маўчы, бо зраблю з цябе ваўка і пабяжыш у лес". За дыяканам уступіўся адзін з урараднікаў. Тады Мілько загадаў, каб ён устаў з-за стала і падышоў да печкі. Урадпік на здзіў усіх прысутных, зрабіў тое і знерухомеў быццам слуп. Знервавала гэта бацюшку, які пачаў саромець Мілько. Абурыўся на яго і дзед Лука, які папрасіў, каб той пайшоў дадому. Чарнакніжнік аднак не паслухаўся. Адказаў, што будзе яшчэ есці і піць, а ў бок „лепшых" гасцей кінуў: „Няхай знаюць, з кім дачыненне маюць!" Ураднік прастаяў нерухома ля печкі паўгадзіны, аж Мілько пакінула злосць і яго адчараваў.

П. Мілько гасцяваў таксама на вяселлі Фёдара Валкавыцкага (перад 1915 г.). Яго пакойны ўжо сын Мікола расказваў:

— Бацька гаварыў мне, што Мілько ў нейкі момант пачаў віншаваць маладую пару. Потым наліў у кілішак гарэлкі і падаў маёй маці, яна аднак не захацела выпіць. Тады бацька, невядома чаму, узяў кілішак у сваю руку і моцна яго сціснуў, аж той лопнуў. Стала яму нядобра. Выйшаў з дому, не ведаючы куды ідзе. Пачаў паводзіць сябе ненатуральна. Маці пералякалася, што яе муж звар'яцеў. На шчасце, праз нейкі момант усё супакоілася.

Наогул небяспечна было супрацьставіцца Мілько. Пераканалася ў гэтым шмат суседзяў ведзьмара, не выключаючы членаў найбліжэйшай сям'і.

Аднойчы Якаў Бушко піў з Мілько гарэлку. Падвыпіўшы ўжо крыху, пачаў насміхацца са свайго кампаньёна. Мілько папярэдзіў яго, што зробіць так, што Якаў не дойдзе дадому. Усё ж такі разышліся ў згодзе, але пасля вяртання дамоў Я. Бушко пачаў драпаць сцены, кажучы жонцы, што будуе дом. Жонка, даведаўшыся з кім муж піў, пабегла да Мілько прасіць яго зняць чары. Той, смеючыся, сказаў: „А што, ён хацеў быць разумнейшы за мяне?" Затым супакоіў жанчыну, што калі вернецца дамоў, з мужам будзе ўжо ўсё ў парадку.

Аднойчы Мілько зайшоў да Анопрыя Шпаковіча. Той якраз еў грушу. „Сам ясі, а мяне не пачастуеш?" — сказаў госць. Анопрый, доўга не думаючы, працягнуў руку з недаедзенай грушай, гаворачы: „Хочаш, то бяры і еш!" Раззлавала гэта чарнакніжніка. Анопрый ні з таго, ні з сяго пачаў драпаць сцены свайго дома.

Вельмі часта наводзіла на сябе гнеў Мілько яго жонка. Аднойчы пайшло ім аб гадаванне курэй. Калі жонка паставіла на сваім, Мілько чарамі выклікаў у яе пастаянны кашаль. Жанчына марнела ў вачах да той пары, аж за сваю дачку ўступілася цешча ведзьмара, Яўдокія.

Іншым разам жонка Мілько, карыстаючыся нагодай, што ў іх забудове ўспыхнуў пажар, укінула чорную мужаву кніжку ў агонь. Нягледзячы на тое, што ўсё спалілася, кніжка ўцалела (надгарэў толькі адзін з яе рагоў). Жанчына, не здаючыся, закапала кнігу ў агародзе. Калі праз нейкі час Мілько спытаўся ў жонкі, што сталася з кніжкай, тая адказала, што яна згарэла ў пажары. Чарнакніжнік аднак ведаў, што такое штосьці немагчымае. Зусім правільна вырашыў, што жонка зрабіла яму дурны жарт. Прыгразіў ёй, што яна сама прынясе яму кніжку, ды яшчэ будзе яго ўмаўляць, каб ён яе прыняў. Толькі скончыў гаварыць, а жонцы паказаліся тысячы вошай, якія абляпілі яе цела. Пералякаўшыся, выбегла яна хутка з дому, адкапала ў агародзе кніжку і занесла мужу, молячы яго прыняць яе. Паласкавелы Мілько зняў чар.

Часам злавалі чарнакніжніка суседкі, якія мелі звычку доўга заседжвацца ў яго хаце. Якраз быў дзень, калі жонка рабіла сыры. У нейкі момант Мілько дзьмухнуў на сыр і той зрабіўся чорным. Жонка пачала плакаць і скардзіцца перад сяброўкамі на свайго мужа. Мілько дзьмухнуў другі раз і сыр ізноў стаў белым. Спалоханыя гэтым відовішчам жанчыны кінуліся з крыкам у дзверы, абіваючы галовы аб нізкі касяк.

Чарам Мілько не раз падвяргаліся яго дзеці. Здарылася так, што адна з дочак падкрала бацьку грошы. Той заўважыў і сказаў дачцэ, каб яна ў гэтым сама прызналася. Дачка аднак рашуча аспрэчыла бацькавы абвінавачанні. Неўзабаве схапіў яе невыносны боль, упала яна на падлогу і пачала качацца ў канвульсіях. Яе клопаты закончыліся ў тую хвіліну, калі яна аддала бацьку ўкрадзеныя грошы.

Іншым разам Мілько, рамантуючы з сынам Грышам дах дома, пасварыўся з хлопцам. Раззлаваны „напусціў" на сына вошай. Той, пераляканы, пачаў ад іх адганяцца. Развеселены бацька хуценька зняў чар і загадаў Грышу больш з ім не спрачацца. Грыша наогул быў вельмі зацікаўлены незвычайным уменнем бацькі. Прасіў у яго навучыць чараваць. Бацька аднак не згаджаўся, кажучы за кожным разам сыну: „Зашмат наробіш людзям крыўды!" Калісьці, калі Грыша пасварыўся са сваім братам Міхалам, Мілько сказаў, што ўсю маёмасць запіша на другога сына, аддасць яму таксама сваю чорную кніжку і выявіць тайны чаравання. Спакойны і ўражлівы Міхал вельмі спужаўся, увесь час маліўся, потым і стаў баптыстам.

Будучы ў старэйшым узросце Пётр Мілько спыніў свае вядзьмарскія штукі. Памёр у трыццатыя гады. Паміраючы, вельмі пакутаваў. Пахавалі яго ў суправаджэнні бацюшкі на могільніку ў Белавежы. Я прабаваў адшукаць магілу ведзьмара, але ніхто не змог яе паказаць. Магчыма, што магіла зраўнялася з зямлёю. Ніхто таксама не памятае, што сталася з чорнай кніжкай. Можам дадумвацца, што яе закапалі разам з нябожчыкам.

Памяць аб белавежскім чарнакніжніку ўжо заціраецца. Тых, якія яго памятаюць, асталося ўжо няшмат. Некалькі гадоў назад памерла апошняя дзіця Мілько — дачка Надзя, у старэчым узросце.

**Пётр Байко**

# Чаму Польшча дабілася перамогі ў вайне 1920 г.?

У тэлебачанні вельмі шырока было паказана святкаванне гадавіны „цуду над Віслай". Адгалоскі гэтага святкавання праніклі і на старонкі „Нівы". Усё было паказана так, што перамога Польшчы была дасягнута толькі храбрасцю польскіх жаўнераў і ўмеласцю польскага камандавання, якое ўзначальваў „дзядок Пілсудскі". Гэта праўда. Але праўда не поўная. Справа заключаецца яшчэ ў тым, што самая храбрая армія не даб'ецца перамогі і будзе разбіта, калі яна не будзе добра ўзброеная, адзетая і абутая, добра накормленая і забяспечаная медыкаментамі. „Бо адзежа, абутак і лякарствы з'яўляюцца таксама ўзбраеннем", — пісаў Леў Талстой, аналізуючы прычыну заламання напалеонаўскага паходу на Маскву ў 1812 годзе. Таму я падам некаторыя факты, якія датычаць узбраення армій абодвух бакоў і іх камандавання.

Калі ў 1918 годзе была канчаткова развалена знутры саюзніца Францыі, царская Расія, то Францыя разглянулася за новай саюзніцай на ўсходзе і вярнулася да сваёй старадаўняй саюзніцы, Польшчы. Да такой арыентацыі прымкнула і Англія, а таксама ЗША, якія былі ўстрывожаны нябуданімі поступамі ў „перманентнай рэвалюцыі", тэорыю якой прапаведаваў Леў Троцкі, у сапраўднасці Лейба Бранштэйн, другая фігура пасля У. Леніна ў створанай тады савецкай інтэрнацыянальнай дзяржаве рабочых і сялян. Францыя выдзеліла Польшчы крэдыт на 1 мільярд франкаў на ўзбраенне войска і ў рамках гэтага крэдыту паставіла Польшчы ў 1919-20 гадах наступнае ўзбраенне, ужо непатрэбнае Францыі ў сувязі з закончанай вайною з Нямеччынай: 1 494 гарматы, 2 800 кулямётаў, 327,5 тыс. вінтовак, 42 тыс. рэвальвераў, 518 млн. патронаў, 350 самалётаў, 800 грузавых аўтамабіляў і многа іншага; ЗША далі Польшчы крэдыт 158,6 млн. долараў і прыслалі ёй 200 бронемашын, 3 млн. камплектаў абмундзіравання, 4 млн. пар абутку, сродкі сувязі, медыкаменты, правіянт і нейкую колькасць самалётаў; Англія прыслала 58 тыс. вінтовак і 58 тыс. патронаў. Польскі ўрад закупіў яшчэ нейкую колькасць самалётаў у Італіі, але гэтыя самалёты не былі пастаўлены Польшчы ў 1920 годзе, „ponieważ zbolszewizowani robotnicy włoscy odmówili załadunku tych samolotów", — як аб гэтым было напісана ў польскай кніжцы для моладзі „Młody Piłsudczyk", выдадзенай у 1936 годзе. З Францыі вярнулася ў Польшчу поўнасцю ўзброеная і абмундзіраваная армія ген. Галера, у якой было 72 тыс. чалавек. У Войска Польскае перайшло з былой царскай арміі каля 20 тыс. палякаў у афіцэрскіх чынах, у тым ліку 125 генералаў; многа афіцэраў-палякаў і генералаў перайшло з аўстрыйскай арміі; з кайзераўскай нямецкай арміі перайшло многа лётчыкаў. Прыбылі служыць у ім і амерыканскія лётчыкі. Дзякуючы тым пастаўкам Войска Польскае вясною 1920 г. налічвала ўжо 738 тыс. чалавек, і Ю. Пілсудскі мог пачаць наступленне на Кіеў, куды падштурхвалі яго польскія маёмныя класы і заходнія дзяржавы, зацікаўленыя ў тым, каб задушыць новы лад.

У 1920 годзе супроць сябе сталі дзве арміі. Адна армія — гэта Войска Польскае, вельмі добра ўзброеное, вельмі добра адзетае і забяспечанае харчамі (аб чым расказвалі мне польскія ўдзельнікі гэтай вайны), моцнае баявым духам адстаяць суверэнітэт сваёй нядаўна ўзнятай з нябыцця дзяржавы і расшырыць яе граніцы на беларускія і ўкраінскія землі. Войска Польскае было арганізаванае, абучанае і камандаванае прафесіяналамі, меўшымі таксама высокі баявы дух і вопыт, а вялікая іх частка мела ўладанні на ўсходзе. Яны тадышнюю Савецкую Расію не называлі яе афіцыйнай назвай, а толькі „Бальшэвія". З другога боку была Чырвоная Армія, слаба ўзброеная, яшчэ горш адзетая, абутая, якую складалі слаба абучаныя байцы, частцы якіх не зусім было зразумела, за што вядзецца далейшая вайна з якойсь там далёкай малой Польшчай і не панамі. У грамадзянскай вайне Чырвоная Армія дабілася перамогі таму, што супроць яе стаялі нешматлікія і разрознена дзеючыя праціўнікі, а барацьба вялася сярод свайго, разагітаванага насельніцтва. Цяпер супроць Чырвонай Арміі стаяла рэгулярнае Войска Польскае, якім камандавалі польскія прафесіяналы — з удзелам французскіх саветнікаў. А Чырвонай Арміяй камандавалі людзі з павышэння, прывыкшыя толькі да партызанскай вайны: Аляксандр Ільіч Ягораў, былы палкоўнік і былы лейтэнант Міхаіл Тухачэўскі. Развязка сутыкнення гэтых дзвюх армій у рашаючай бітве над Віслай — усім вядомая.

**Мікалай Капчук**

# Каляды ў Відаве

Ёлачка была прыгожая. Бацька, як і ўсе тады, прынёс з відаўскага лесу прыгожае зялёнае дрэўца, якое ўвесь тыдзень пахла лесам. Прыбралі яго сямейнымі аздобамі, якія мама вымала са скрыначкі. Былі там лебедзі, коцікі ў чаравічках, зайчыкі, сабачкі, чалавечкі, зорачкі і вялікі ланцуг з каляровай паперы, які я склейваў разам з мамаю. І гномы з яечных шкарлупін з барадою з ваты і чырвонаю шапачкаю красаваліся побач каляровых цукерак і лямпачак. А пад ёлкаю было сена, на якім я ляжаў і глядзеў на ўсё гэта харáство. Дома царыў ужо святочны настрой, з кухні даходзіў пах святочных страў. Мама паказвала мне сямейныя здымкі і гаварыла, хто на іх; апавядала пра Слонім, дзе жыла наша цёця.

Калі мне споўнілася чатырнаццаць гадоў, пачаў я са сваімі равеснікамі збірацца ў хаце Івана Міхалевіча і там мы вучыліся спяваць калядныя песні. Мелі ўжо двухрадковую гвязду з дваццацю чатырма рагамі; штогоду абклейвалі яе каляроваю паперай. У *Раждажаство* выходзілі мы ўжо ў шэсць гадзін раніцы, абыходзілі Відава, пазней па-пад галадоўскім лесам абыходзілі хутары аж па шашу з Гайнаўкі ў Бельск, ішлі каля ПОМу ў Галавеск і на вуліцу Хмельную. Заходзілі і да палякаў, і да беларусаў; усе нас ахвотна прымалі. Пад вечар, калі ўжо ўсіх абкалядавалі, вярталіся ў Відава і там дзяліліся грашыма, а гвязду ад нас бралі старэйшыя сябры і яны, гучна спяваючы, праходзілі па вуліцы і заходзілі туды, дзе свяцілася святло. Так яны калядавалі да поўначы, а пасля пілі гарэлку да раніцы.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Страцілі найважнейшае — сэрца

Калі людзі жылі бедна, дык і спагада і любоў царыла ў іх сэрцах. Дажылі сваёй роднаю мовай, звычаямі, гісторыяй. Восенькімі і зімовымі вечарамі жанчыны сходзіліся на пакудзеллі, спявалі. Ды і мужчыны хадзілі на вечарынкі і іх расказам не было канца. І моладзь не спала: таксама на вечарынках дзяўчаты і хлопцы спявалі ды жартавалі, а на святах і начарцы выпівалі. Міжваеннага перыяду я не помню, бо нарадзіўся я падчас нямецкай акупацыі. Але пасляваенны час — час майго дзяцінства — помню добра. Людзі жылі бедна; прычынілася да гэтага крывавая вайна, з якой не вярнулася каля дзесятка маіх аднавяскоўцаў. Наша вёска ў 1941 годзе амаль поўнасцю была спалена і людзі пасля вайны адбудоўваліся. І тады адзін аднаму дапамагалі; ці то хату, ці драўніну перавезці. Калі прыйшло вызваленне, людзі цешыліся, і хаця не было яшчэ электрычнасці, культура і школьніцтва развіваліся скорымі тэмпамі. Некалькі чалавек купілі сабе радыёпрыёмнікі з навушнікамі і ўся вёска хадзіла пабачыць тую сенсацыю. І веласіпеды сталі купляць: ці то нямецкія, ці польскія „Балтыкі". Многія ездзілі працаваць на чыгунку ў Варшаву. Раскол паўстаў, калі ў вёсцы быў арганізаваны калгас і з тае пары варожасць цягнецца па сённяшні дзень. Галоўнай жа яе прычынаю з'яўляецца ненасытная прага багацця. І страцілі людзі найважнейшае — дабрату і сэрца. Але так дзеецца паўсюдна.

**Мікалай Панфілюк**

# Сямейны лекар

Нядаўна Беластоцкае радыё доўга бубніла аб сямейным лекары і пераконвала грамадзян, што з такім урачом будзе намнога лепш, паколькі будзе ён ведаць хваробы ўсёй сям'і. Гэта вельмі добрая ідэя для горада, дзе лекараў хоць адбаўляй. Тады што будзе з нашай вёскай? Калі я выберу сямейнага лекара з горада, то ці ён прыедзе да мяне і колькі гэта будзе каштаваць? Ці хопіць селяніну-пенсіянеру грошай усё аплаціць, калі ён атрымоўвае 300 злотаў пенсіі?

Вазьму я тут для прыкладу гміну Нарва. У гмінным асяродку здароўя працуюць два лекары — тэрапеўт і стаматолаг, а ў вясковых амбулаторыях у Ласінцы і ў Трасцянцы па адным лекары. У такой сітуацыі няма выбару сямейнага лекара і кожны хворы вымушаны ісці да свайго вясковага асяродка, а калі там няма якраз лекара, то трэба падацца ў гмінны асяродак у Нарве. Там кожнага пацыента ветліва прымаюць, а калі ўжо заказаць хатні візіт, то лекар з Нарвы заўсёды прыедзе.

Намерваюцца нашы ўлады рэфармаваць ахову здароўя, але думаюць толькі пра гарады, а не пра нашы вёскі, пра людзей у глыбінцы. У вясковых асяродках аховы здароўя лекары не страйкуюць. У горадзе лекараў многа і можна ім страйкаваць, і галадаць, але ім і так памерці не дадуць.

Варта, каб нашы ўлады сур'ёзна падумалі аб рэформе аховы здароўя і ў вёсцы.

**Мікалай Лук'янюк**

# Некультурная моладзь

У пачатку снежня давялося мне ехаць з Беластока ў Гайнаўку на аўтобусе, які ў Ласінцы паварочвае з шашы ўправа і пятляе па тамашніх вёсках. А паколькі была серада, многія сяляне ехалі ў гэты дзень у Гайнаўку на кірмаш. У Трывежы ў аўтобус увайшлі бабуля і дзед з ключкай. Відаць, ён — інвалід або ветэран, бо купіў льготны білет. У аўтобусе было многа моладзі, якая даязджае ў сярэднія школы.

— Глянь, — кажа бабуля дзеду, — як моладзь заўзята глядзіць у вокны. Мабыць таму, каб нас не бачыць і не ўступіць месца.

Пачуўшы гэтыя словы я азірнуўся назад. І сапраўды, старэйшыя людзі сядзелі проста, а ўсе без выключэння маладыя людзі глядзелі ў вокны, быццам бы захапляліся вядомым ім змалку прыпушчанскім краявідам.

Бабуля з дзедам даехалі да Гайнаўкі стоячы. А мне падумалася: адкуль бярэцца абыякавасць маладых да старэйшых, слабейшых фізічна людзей. Чаму гэтаму элементарнаму прынцыпу пашаны іншага чалавека не вучаць ні дом, ні школа.

**Мікола Лук'янюк**

# Прысутнасць роднага

Паэзія — гэта безупынная размова са штодзённасцю не толькі тою, што непасрэдна кранае паэта, але і такою, якая прасцілаецца патрэбай на сто ці дзвесце гадоў у мінулае. Адчуванне штодзённасці можа быць формаю сувязі з мінулым і сучасным; яно такое ж у найбліжэйшым наваколлі паэта і ў далёкай ад яго чужыне. Вершы Мікалая Панфілюка прасякнуты адметнасцю Усходняй Сцяны, адлюстраванай у дубіцкіх наваколлі і людзях. У вершах Мікалая, які штодзённа з сумкаю пісьманосца сузірае родную зямлю, адлюстравана настальгія па мінулым, якое ён, аднак, не заўсёды адабрае. У іх прысутнічае таксама гутарка з непрысутнасцю, пасля якое наступае маўчанне, а таксама вяртанне да выразнай наяўнасці свайго лёсу на фоне абыякавасці наваколля. Сустракаем тут таксама і гумар, і радасць, і пачуццёвасць, і эротыку. Усё гэта яднаецца ў адно цэласнае захапленне родным бытам, які быццам цень паэт кладзе ў сваю паэзію. Віншую Мікалая з ягонымі вершамі, спадзяюся ягонага паэтычнага зборніка з надзеяй стаць адным з першых яго чытачоў.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Кіёск у бальніцы

У бальніцы ў Гайнаўцы ёсць кіёск, дзе можна купіць усю дробязь і газеты. Калі аднойчы папрасіў я прадаць мне „Ніву", прадаўшчыца адказала, што няма. У бальніцы ёсць яшчэ і крама з прадуктовымі таварамі, у якой хворыя могуць купіць усё неабходнае. Ёсць там і капліца, дзе моляцца каталікі і праваслаўныя ў вызначаныя гадзіны. У Гайнаўцы жыве мешанае насельніцтва і таму ў бальніцы ўлічана іх канфесійная адметнасць. Дык чаму ж тады няма ў шпітальным кіёску беларускіх выданняў? Калі б хтосьці з хворых схацеў пачытаць „Ніву", то купіць яе там не зможа.

**Мікалай Лук'янюк**

# Новыя тэлефоны

28 кастрычніка 1997 г. у Гайнаўцы пачала працаваць лічбавая тэлефонная станцыя Акцыянернага таварыства „Рэтэль". Новае прадпрыемства стала хутка ставіць гайнаўянам тэлефоны, якія спалучаны са станцыяй сістэмай радыёвых хваляў і кабеляў. „Рэтэль" ставіць тэлефоны на тэрыторыі да 6 кіламетраў ад мачты, якая пабудавана на вуліцы Пілсудскага. Суполка паставіла ўжо ва ўсёй Гайнаўцы каля тысячы тэлефонаў, а плануе свае паслугі і ў Пасталове, Савіных Грудзе, Бельшчыне, Ліпінах, Дубінах, Хітрай, Прагалях, Выгодах і Парэеве.

Акцыянернае таварыства „Тэлекамунікацыя польская" таксама рашылася на інвестыцыі і на новыя паслугі для жыхароў Гайнаўкі. Прывезлі ўжо новую лічбавую станцыю і кладуць кабелі як у самай Гайнаўцы, так і ў іншых суседних гмінах. У хуткім часе пачнуць ставіць гайнаўянам новыя тэлефоны. У пачатку 1998 года ў планах таксама новыя лічбавыя станцыі па ўсёй Гайнаўшчыне.

Унукі з Беластока будуць маглі паразмаўляць са сваёй бабуляй не толькі ў час святаў ці канікулаў. Каб толькі тэлефонныя паслугі не даражэлі так хутка ў будучыні, як прадвяшчае цяпер новы ўрад!

**Аляксей Мароз**

# Пісаць складна ды ўладна

Я часта маю ўражанне, што рэдактары „Нівы" гэта вельмі нясмелыя людзі. Гучна выказваюцца за лібералізм. Значыць, у „Ніве" можна друкаваць усё. Ну, і тактоўныя яны — на скажа табе такі рэдактар у вочы, хутчэй прамаўчыць, што плён тваёй непраспанай ночы варты сметніцы. У кош твайго тэксту не кіне; добра, калі надрукуе, часам тое-сёе скароціць, абчэша, абгаблюе і ў друк пускае. А часам і так бывае, што назойлівы і прыдзірлівы карэспандэнт так даесць, што за тую ўпартасць і шчырасць пусцяць яму і верш, які не горш гучаў бы ў прозе, г.зн. пісаны не „ў слупку", нават рыфмаваны, а месца менш займаў бы на старонцы. І той верш — несумненна — слушны, і варта надрукаваць чыесьці роздумы, бо шмат у нас аднадумцаў, а „Ніва" ёсць газетай усіх беларусаў. Але што зробіш, што найлепшы ў гміне паэт раптам пакрыўдзіцца на заўвагу ці прапанову ды закіне пяро пад страху?! А шкада яго траціць! Ну, але што рэдактарам праз вусны не пралезе, то я скажу, бо я ў такой самай сітуацыі, як і ўсе ніўскія карэспандэнты, і ніхто мяне друкаваць не мусіць.

Давайце, будзем пісаць „складна ды ўладна". А гэта па-мойму значыць так: над сваім пісаннем трэба пасядзець, каб яго адправіць у свет. Асабліва калі нас друкуюць шмат гадоў. Бо калі не пішам лепш, гэта значыць кепска з намі, няма ў нас прагрэсу. А падыход да сябе і да чытача ўжо можна пазнаць па рукапісе. Падглянуў я арыгіналы, з якіх ледзь пазнаеш, на якой мове яны, пра каго аўтар піша (тры розныя версіі прозвішча героя), неправерáныя інфармацыі... А почырк бывае горшы чым у праславутай курыцы! У рэдакцыі няма ж штату для спецыяліста па расшыфроўцы! А пісаць жа людзі ўмеюць, бо і прафесары ёсць сярод карэспандэнтаў! Над тэкстамі некаторых творцаў карпее ўжо трэцяе ніўскае пакаленне! Калі шануем самых сябе і іншых, а асабліва рэч святую святых — час, трэба да гэтай справы падыходзіць сур'ёзна. Я, напрыклад, пішу вельмі брыдка, але вынік свайго мазгавога і сардэчнага высілку... каліграфую! Тут справа не толькі ў літарах. Праўлю. А які я рады, калі мяне яшчэ папраўляць у рэдакцыі!

Няма чаго крыўдаваць за заўвагі і прапановы! Я тут можа раблюся нудны старэча, „бэльфер", але ж на нашай газеце вучацца беларускай мове! І добра было б, калі б прыйшлі новыя, і карэспандэнты, і журналісты, і былі яны лепшыя за нас, але і нас успомнілі добрым словам як сваіх настаўнікаў і інспіратараў!

Дарагі мой сябра! Проста і ясна трэба **раз** сказаць: вясною сеюць, летам спеюць, восенню збіраюць, і ўсе мы народ сумленны, шчыры і добры, веруючы ў Любоў і Слова, толькі чамусьці ўладары нам кепскія трапляюцца, жыць не даюць. Але маймa хоць уладу мы над уласным словам! Не спасылаймася на Пана Бога без патрэбы і не марнуйма Ягоны дар, які нас адрозніваe ад іншых істот.

А злосць сапраўды ў нішто зводзіць красу, калі нават яна ў каго ёсць немалая. Хто пра гэта не дбае, хай мяне праклінае і лае, але хай знае, што і мяне толькі хто хоча той і чытае.

**Вандал Арлянскі**

# Парнасік

## Снежань і бура

Месяц снежань
Сыпле снегам.
Снег не перашкода,
А добрая прыгода.
Трэба так нам жыць,
Каб усіх любіць.
Пракатацца санкамі
Варта з „абаранкамі”,
Меўшы іх у *суме*
І сказаўшы: Куме —
Вось закуска ёсць:
Вып'ем на радасць і на злосць!
Толькі каб у норме,
Каб трымацца стройна
І каб не здурэць,
Толькі гумар мець.
Снежань скора пройдзе
І новае нас знойдзе;
Будуць Каляды
І будзеш малады.
Як у Хрыста паверыш
І радасцю надзеліш
Сваё сэрца, хату,
І станеш багатым.
Старасць не страшыць
І тое, што баліць,
Пройдзе ўсё, а магіла
Толькі для *пахілых*.
Смерць, яна фізічная —
Страшная для *псіхічных*.
Усе памрэм, *як цела*
І трэба жыць умела
Каб душа жыла
І Хрыста знайшла.
Смерць мы пераможам,
Калі шчыра схочам.
Быць бялей ад снегу —
Не страшны завеі.
Бура стогне, але пойдзем,
Верны шлях-дарогу знойдзем.

**Мікалай Панфілюк**

## Аптымізм

Калі адвернешся з агідай
Ад ўшчэнт сагніўшага падлá,
Хаця агідна, хаця крыўдна,
У песімізм не пападай.
Усё памалу launchпратрэцца
І перастане нейк ваняць,
І толькі глеба будзе лепшай,
Пяску і гліне не раўня.
Хопіць, даволі плакаць-нюняць.
Глянь! Свеціць сонца, йдуць дажджы,
Вырастуць кветкі-прыгажуні
І здаравенныя дубы.

*1988 г.,* **Цётка Мальвіна**

## Пажаданні

Пажаданні ў Новым годзе,
Дарагія, усім вам шлю,
Каб усе жылі шчасліва,
Берaглі нашу зямлю.
Каб весела ўсім вялося,
Гора і бяды не спазналі,
А нашу бацькаўшчыну родну,
Каб усе шанавалі.
Каб былі ўсе здаровы
Дзеткі, унукі і дзяды.
Каб ніколі не хварэлі
І да лекара не йшлі.
Каб жыццём усе радаваліся,
Радасць мелі і рублі,
Пажаданні вам пасылаю
Я ад шчырае душы.

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астронку, мілы! Кепскія сны мне сняцца. Вось быццам знаходжуся я недзе ўгары. Як бы ляжала на нейкім вялізным крэдэнсе. Побач са мною знаходзіцца нейкі калега, які — не памятаю. Нам трэба сысці ўніз, але мы ж вельмі высока. Той сябра, уваткнуўшы мне ў рукі бутэльку гарэлкі, якая невядома адкуль тут узялася, адчайна скочыў уніз. Удалося!

Паглядзела я ўніз і перапужалася: не саскочу! але ж трэба злезці адсюль. Крэдэнс гэты белага колеру, складаецца ён з трох гарызантальных частак. Гэтыя тры часткі крэдэнса вельмі моцна стаяць адна на другой. Не магу іх крануць з месца, а мне ж трэба паставіць недзе нагу, бо той крэдэнс — як суцэльная сцяна.

Нейкім цудам мне ўдаецца прыпаднясць верхнюю частку крэдэнса. Трымаю яе рукамі і хуценька стаўлю туды нагу. Пачынаю сыходзіць уніз. Неяк далезла я да сярэдняй часткі крэдэнса. Гляджу, а яе можна перасунуць. Я адсоўваю памаленьку яе, і зноў магу паставіць нагу. І ўжо я стаю дзвюма нагамі на ніжняй частцы крэдэнса. Цяпер лёгка саскокваю ўніз. Прачынаюся. Што будзе, Астроне?

**Яня**

Яня! Відаць, што праблемы не даюць табе спаць. Цяжкая будзе твая дарога да перамогі. Па нейкіх табе вядомых дарогах (ты ж сама сабе іх стварыла) ты дойдзеш да нейкіх поспехаў на працы і вялікай пашаны. Вось бачыш, хаця з цяжкасцямі, але ўдалося табе саскочыць з таго крэдэнса, а падзенне з вышыні — пашана і павышэнне.

**Астрон**

<u>Ліст у рэдакцыю</u>

# Як завязаць гальштук

Недзе тры гады таму ў „Ніве” друкаваўся рысунак-інструкцыя па завязванні гальштука ў двух варыянтах. Я гэты нумар „Нівы” схаваў у шуфлядку (у якой трымаю ўсе дакументы) і час ад часу гэтым рысункам карыстаўся. Якое ж было маё здзіўленне, калі нядаўна трэба было завязаць пачышчаны і адпрасаваны гальштук. Аказалася, што ў шуфлядцы няма гэтай „Нівы”, а я на памяць не навучыўся як гальштук завязваць! Відаць, жонка робячы перадсвяточныя парадкі, газету выкінула. Дапамажыце, сябры, бо святы не за гарамі і гальштук трэба будзе надзяваць часцей.

**Антон Казлоўскі**
**Калодна**

**Ад рэдакцыі:** Ахвотна спаўняем вашу просьбу, тым больш што рысунак-інструкцыя, мабыць, прыдасца іншым нашым чытачам.




# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. аўтар „Антыгоны”, 3. на поўнач ад тайгі, 5. сталіца Казахстана, 7. чырвона-буры налёт на паверхні жалеза, вынік яго акіслення ў паветры і вадзе, 9. пашкоджанне тканак арганізма, 10. з'яданне асобін свайго віду, 11. ігра на асобых картах з нумарамі або малюнкамі, якія закрываюцца фішкамі, 12. акружэнне, 14. зорка, альфа ў сузор'і Блізнят, 16. паклёп, 17. металічная абіўка.

**Вертыкальна:** 1. каштоўны камень блакітнага колеру, 2. войлачная або кардонная затычка, якою забіваюць зарад у зброі, што зараджаецца з дула, 3. слаўная самаварамі, 4. дрэва з гронкамі дробных чырвона-аранжавых пладоў, 6. футбаліст на матацыкле, 8. Жан, французскі педагог, які абмяжоўваў ролю настаўніка на карысць ініцыятывы вучня (1770—1840), 9. амплітуда, 11. вялікая маса снегу, якая падае з гор, 13. раздзел фізікі, які вывучае ўласцівасці святла, 14. напітак з молатых зярнят кафейнага дрэва, 15. спіртны напітак прыгатаваны з пальмавага соку і рысу. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 45 нумара**

**Гарызантальна:** палуба, актрыса, Расіні, талакно, гайдук, адкорм, Атакама, Вайгач, трывога, халява.

**Вертыкальна:** пастка, столік, шынкар, парог, Лісій, Банту, Амарым, дракон, клапан, джала, оргія, мачта.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

Аляксандр Пікулік

# Рэквіем салдату 1941-га

*У сакавіку 1941 года майго бацьку ПІКУЛІКА Васіля Віктаравіча, удзельніка вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 года і Савецка-фінляндскай вайны, зноў мабілізавалі на тры месяцы. Яго, сапёра, паслалі ў Шчучын (Беластоцкая вобласць) на будаўніцтва новай граніцы. За дзень да дэмабілізацыі пачалася Вялікая Айчынная вайна.*

*Светлай памяці яго і ўсіх салдат гераічнага і трагічнага 1941 года прысвячаю гэты верш.*

Той помню добра сакавіцкі дзень,
Калі па позве райваенкамата
Ты зноў надзеў салдацкі свой шынель.
Апошні раз цябе я бачыў, тата.

Аб страшным хто тады падумаць мог?
Шчэ не сляпілі неба бліскавіцы.
І ты, сапёр, ішоў пад Беласток
На ўмацаванне новае граніцы.

Да скону буду помніць родны твар,
Яго пазнаў бы з тысяч незнаёмых.
Я кожны дзень гляджу ў каляндар,
Чакаў, калі ты вернешся дадому.

Не дачакаў...
Твой быў апошні ліст,
Што на граніцы стала так трывожна...
А ўжо праз дзень, на досвітку, фашыст,
Як смерч, ляцеў на Шчучын і на Ломжу.

Ты помніш, беластоцкая зямля,
Той першы дзень навалы нечаканай?
І першы бой, і, як адчай: „Ур-ра!”
І шэпт ад ран канаючага: „Ма-ма...”

Мы ведаем трагедыю тых дзён,
Калі адна абойма на салдата.
У бой ішоў сапёрны батальён,
Як на праклён, з сякерай і лапатай.

Што ў сорак першым сталася з табой,
Ад кулі паў ці згінуў у палоне?
Не знаю я, таму і горыч-боль
Мне часта не дае заснуць і сёння.

Сыны цябе даўно перажылі.
Надыдзе час і нас з'яднае неба.
Даруй, што на затлумленай зямлі
Жылі яны, відаць, не так, як трэба.

Зямля й цяпер знявечана вайной.
Я знаю, што са мной так кожны скажа:
„Хай лепш маленькім згіне злыдзень той,
Калі дарослым ён вайну развяжа”.

# Шукаю сведкаў

У красавіку 1943 года мяне вывезлі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Забралі мяне з вёскі Наройкі і завезлі ў гміну ў Драгічын, затым усіх нас адправілі ў Бельск-Падляшскі. З Бельска на цягніку вывезлі ў Кёнігсберг і паслалі на работу. Я папала да гаспадара Янзана (імя не памятаю) у вёску Рынаў. Там я працавала да 1945 года. Калі нас вызвалілі, я вярнулася ў сваю вёску.

Шукаю сведкаў, якія маглі б пацвердзіць, што я сапраўды была вывезена ў Нямеччыну. Маё дзявочае прозвішча: Ткачук Аляксандра Мікалаеўна, 1925 года нараджэння.

Усіх, хто мяне памятае, сардэчна прашу адгукнуцца.

**Аляксандра Тапкевіч**
в. Даўгінава
Вілейскі раён
Мінская вобласць
Беларусь 222424


# Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. pocz. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Іванка

Прызываў Іванка
за роднае біцца,
Шчыры верш пісаў
ад шчырага сэрца...
Стаў шчэ лепш(?)
*пысаты*
і стаў украінцам,
Бо ж нэ був вон
*белы.*
*Русы* мо?
Здаецца,
Ссівеў ад даўніны,
якую прынеслі
Яго продкі
ў генах
з далёкае далі.
А калі ўзірацца,
то ж ты
хоць і трэсні, —
Іванка е гун,
палавец
ці мандарын!

**Вандал Арлянскі**




*Мал. А. Канаваленкі*

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Да сексуолага прыходзіць жонка і скардзіцца, што муж страціў узбуджанасць да яе.

— Ці ёсць на гэта нейкае лякарства? — пытае лекара.

— Ёсць парашок, трэба будзе яго ўсыпаць у мужаву каву. Гарантую маланкавую рэакцыю...

На другі дзень жанчына зноў з'яўляецца ў лекара.

— І што: памагло? — пытае ўрач.

— Яшчэ як! Не ведаю толькі ці асмелюся зноў схадзіць у тую кавярню.

* * *

Гутараць два сябры:

— Як можаш пачынаць дзень з дзвюх чарак?

— Калі прачынаюся, дрэнна сябе адчуваю і мушу перакуліць чарку. Калі яе вып'ю, адчуваю сябе зусім другім чалавекам. А той другі чалавек таксама хоча выпіць!

* * *

— Афіцыянт, паклічце загадчыка! Я зусім не магу раскусіць гэты біфштэкс.

— Загадчык у нічым не паможа, бо гадзіну таму здаў свой зубны пратэз у майстэрню.

* * *

Коля на досвітку вяртаецца дадому п'яны. У дзвярах яго вітае жонка:

— Саромеўся б, п'янюга, каб я — парадачна выхаваная жанчына — мусіла такое цярпець!

— Калі б ты была парадачнаю, не размаўляла б сярод ночы з п'яным мужчынам.

* * *

Наведвальнік рэстарана спахопліваецца ад століка ды кліча:

— Афіцыянт, рахунак! Хутчэй... Колькі мне плаціць?

— Восем злотаў.

Спажывец кідае на стол дзесяцізалатоўку:

— Рэшты не трэба!

Хапае паліто і кулём выбягае на вуліцу. Адбягае ад рэстарана, затрымоўваецца, аглядае паліто з усіх бакоў ды сплёўвае са злосцю:

— Халера! Маё...

* * *

Афіцыянт да буфетчыцы:

— Адну каву!

— Чорную ці белую?

— Абы-якую, гэта для сляпога...

## Пасля свята

***(казка для дарослых)***

Кажуць, калі што-небудзь пажадаць пад Новы год, то павінна ажыццявіцца...

Снежная Баба марыла стаць Снягуркай. Яна саромелася свайго чырвонага носа-морквы, іржавага вядракапелюша, нязграбнай фігуры. Праўду кажучы, калі дзеці толькі яе зрабілі, яна падалася сабе вельмі прыгожай, шчыра ўсміхалася, падміргвала вугельчыкам-вочкам.

Але здарылася нечаканае: Снежная Баба закахалася ў студэнта, які жыў у доме насупраць. Штовечар яна цяпер глядзела на тыя вокны, думала пра тое, чым заняты яе каханы, чакала, калі ён выйдзе на двор, няхай сабе хоць вынесці смецце.

Аднаго разу раніцою сябар студэнта гучна пажартаваў:

— Вось табе б такую прыгажуню, га?

— Ды ты што, ідыёт! Маёй стыпендыі ледзь на бутэрброды хапае!

З таго часу Снежная Баба засумавала, забылася пра ўсмешкі, не звяртала ўвагі на прахожых, нават крыху схуднела. І, гледзячы на знаёмыя вокны, пачала марыць пра тое, каб ператварыцца ў Снягурку-прыгажуню...

31 снежня, апоўначы, стомлены, але вясёлы Дзед Мароз спяшаўся на сустрэчу са сваім маладым пераемнікам. І раптам убачыў ільдзінкі слёз на твары Снежнай Бабы.

— Што такое? — спыніўся стары. Потым прыслухаўся да яе думак: — Так-так, Снягуркай, значыцца, хочаш зрабіцца?

А пасля лёгка дакрануўся да яе і... Снежная Баба знікла. Затое з'явілася танюткая прыгажуня з бліскучымі вочкамі, з-пад белай хустачкі якой разбягаліся ва ўсе бакі праменьчыкі непаслухмяных валасоў, ножкі ў чырвоных боціках адразу весела затупалі, шпарка пабеглі да знаёмага пад'езда.

Дзверы адчыніў сам студэнт, убачыў Снягурку і — аслупянеў ад шчасця...

Навагодняя ноч мінула, бы ў чароўнай казцы, акурат гэтак, як і марыла Снежная Баба працяглымі халоднымі начамі. Ну, а потым пачаліся звычайныя дні: з посудам і бялізнай, прастойваннем у чэргах і цяжкімі клункамі. У студэнта прарэзаўся зануддлівы, паганы характар, у яго з'явілася шмат галодных сяброў і вялікая колькасць сваякоў, якія штодня таўкліся ў іхняй аднапакаёўцы. Да таго ж хранічна не хапала грошай, а студэнт патрабаваў на абед — бефстрогунаў, а са стыпендыі — новыя красоўкі. Снягурка ўладкавалася на працу прыёмшчыцай шклатары, яе белая хустачка ператварылася ў шэрую, абцасы боцікаў зусім збіліся...

Напярэдадні наступнага Новага года Дзед Мароз сустрэў стомленую хударлявую кабету з патухлымі вачамі.

— Небарака, — уздыхнуў стары, пашкадаваў, прыслухаўся да яе сумных думак і... дакрануўся да яе.

Раніцай 1 студзеня, пасля свята, людзі ўбачылі пад сваімі вокнамі таўстуху-весялуху — Снежную Бабу. Носморква задзірліва тырчаў, капялюшвядро нахіліўся ўбок, усмешка расцягнула вусны ад вуха да вуха...

**Ганна Чакур**

## Сардэчныя тайны

Даражэнькае Сэрцайка! У галаву мне лезуць страшэнныя думкі, каб кінуць сям'ю і пачаць новае жыццё. Не магу спаць па начах, у душы — трывога і боль.

А ўсё пачалося так рамантычна. Калі я стаў студэнтам, адразу пазнаёміўся з дзяўчынай, якая вучылася на адным курсе са мной. Божачкі! Якая яна была прыгожая! Ну, дальбог, цыганка з выгляду: цёмная скура, цёмныя вочы, губы — быццам дзеля цалавання створаны, а фігура — ну, венера, не інакш!

Усе хлопцы зайздросцілі мне, што я такую дзяўчыну знайшоў, ды што яна да мяне так прыклеілася. Дальбог, мы з ёю не разлучаліся. Яна была з меншага горада, можна сказаць, з мястэчка, а выглядала, як нейкая парыжанка. Дахаты яна амаль перастала ездзіць, увесь свабодны час праводзіла ў нас, а мае бацькі не мелі нічога супроць. Яна ім таксама падабалася, як і ўсім.

Пасля трэцяга курса мы паехалі разам адпачываць, і менавіта тады нешта сапсавалася. Навокал было столькі загарэлых, статных дзяўчат, кожная з іх абкідала мяне гарачымі паглядамі на пляжы, на вуліцы, у кавярнях, у якія мы заходзілі. А мая дзяўчына трымалася за мяне, як за матчыну спадніцу, якую не выпускала з рукі. Мне абрыдла быць нейкім казлом адпушчэння. Што я, прывязаны да яе, ці што?!

Апрача таго і кажу табе гэта пацыху, адна невясёлая думка непакоіла мяне. У дзіцячыя гады мне рабілі „мужчынскую” аперацыю і тады лекары папярэдзілі, што я ў будучыні, магчыма, не буду мець дзяцей. Мне было страшна ад тае думкі: мы ж тры гады жылі з гэтай дзяўчынай, як муж з жонкай, і яна не зацяжарыла ніводнага разу. А мо гэта яе віна?

Калі мы прыйшлі на заняткі восенню, я ўжо хадзіў з іншай дзяўчынай, якая была якраз „свабодная”, а пазнаёміла мяне з ёю іншая сяброўка. Мая першая дзяўчына, прыехаўшы ад бацькоў, пераехала праўдзівы стрэс: плакала, прасіла, хадзіла аж да маіх бацькоў. Мне ад гэтага было даволі-такі агідна. У мяне ж ужо была іншая.

І, дальбог, Сэрцайка, яна неяк вельмі хутка зацяжарыла, дык мы згулялі вяселле. Не, не была яна такая прыгажуня, як першая дзяўчына. Яе не зачаплялі ў аўтобусе, але было ў ёй нешта непаўторна мілае. Уся яе постаць была далікатная і крохкая, я вельмі баяўся, каб яна хаця шчасліва нарадзіла наша дзіця. Пра яго я думаў ўдзень і ўначы, не мог дачакацца, калі яно нарэшце народзіцца.

Нарадзіўся хлопчык, як дзве кроплі падобны на бацьку, і не было на свеце чалавека, больш шчаслівага за мяне. Я насіў малога на руках, не спаў начамі, усё рабіў у хаце. Абы толькі былі здаровыя жонка і малы.

Мінула пару гадоў. Жонка вельмі хутка зразумела, што выгадней быць слабой маленькай кабеткай, чым бабай, якая ўсё бярэ на сябе. Не хоча нічога рабіць, нават абеду не наварыць, калі мы выбраліся ад бацькоў. І я пачынаю памалу мець гэтага досыць, хаця ў пасцелі яна: дай Божа здароўя!

Успамінаю першую дзяўчыну і бачу яе адданыя, вялізныя вочы, усю яе постаць, гатовую на кожную ахвяру. Ведаеш, Сэрцайка, часамі мільгане нешта ў маёй свядомасці, і сэрца заколе. Аднойчы вырашыў ужо пазваніць ёй і дамовіцца, але я адступіў ад гэтай думкі. Што я раблю? — апрытомнеў я. — Гэта ж можа быць канец маёй сям'і, пра якую я так марыў.

**Іван**

Так, Іване, ты марыў, але ці якраз пра такую?! Ты, здаецца, уяўляў сабе, што будзе гэта твая першая дзяўчына, якая народзіць табе сына. Ты накінуўся з радасцю на другую, нават добра яе не разгледзеўшы. Уцешыўся, што ўсё ж такі патрапіш. Лекар не меў рацыі!

І гэта было тое, што сцэментавала вашу сям'ю. Мо, калі б не адбылося ўсё так страшна хутка, ты меў бы яшчэ альтэрнатыву.

А цяпер, брат, цярпі, атаманам будзеш!

**Сэрцайка**